№ 49 (258) 3 сьнежня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## КРАІНУ ПАГЛЫНАЕ АКІЯН

**Усе 11 тысячаў насельнікаў Тувалу пакідаюць родныя атолы. Старонка 5.**



ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# Змова супраць Ганчарыка?

6 сьнежня адбудзецца пленум Фэдэрацыі прафсаюзаў беларускай. Нягледзячы на нэўтральную рабочую назву — "Аб разьвіцьці прафсаюзнага руху ў Беларусі", — гаворка на пленуме, хутчэй за ўсё, пойдзе пра сёлетнія палітычныя падзеі і ролю прафсаюзаў у іх. Апанэнты Ганчарыка папракаюць яго тым, што ён нібыта нашкодзіў прафсаюзам сваім удзелам у прэзыдэнцкіх выбарах. Падліў алею ў агонь Лукашэнка, які прылюдна параіў прафсаюзьнікам пераабраць Ганчарыка. Маўляў, тады і праблемаў у прафсаюзаў паменее.

Сам Ганчарык, камэнтуючы прызначэньне кіраўніком Акадэміі навук Міхаіла Мясьніковіча, пажартаваў: цяпер засталося прызначыць яшчэ кіраўніка прафсаюзаў. Пленум здымаць з пасады старшыню неправамоцны. Самахоць Ганчарык у адстаўку не зьбіраецца. Зьмяніць яго можа толькі зьезд ФПБ, скліканьня якога будуць дамагацца на пленуме праціўнікі Ганчарыка. Можа быць і непрадказальны варыянт.

Пра замену старшыні ФПБ думаюць ня толькі на Маркса, 38, але і ў колах палітычнае апазыцыі. Па нашых зьвестках, гэтая ідэя ўзьнікала і ў былога кіраўніка выбарчага штабу апазыцыі Васіля Лявонава. Будучыня Ганчарыка шмат у чым залежыць ад таго, якую пазыцыю зойме і якую частку свайго ўплыву захавала яшчэ адна ягоная штабістка — Валянціна Палевікова.

Зьмяніць Ганчарыка, паводле ацэнак, здольныя ягоныя намесьнікі Мікола Беланоўскі ды Франц Вітко.

**Для "НН" сытуацыю ў прафсаюзах камэнтуе галоўны рэдактар газэты ФПБ "Беларускі час" Аляксандар Старыкевіч:**



Лукашэнку карціць, каб Ганчарык пайшоў з пасады старшыні ФПБ. Прычына зразумелая: перад выбарамі ўпершыню пазначыўся хай кволы яшчэ і абмежаваны, але хаўрус намэнклятуры з дэмакратычнай апазыцыяй. Гэтага было яшчэ недастаткова, каб перамагчы, але сама па сабе такая тэндэнцыя Лукашэнку не падабаецца. Таму ён бы хацеў пакараць ініцыятараў гэтага зьбліжэньня.

Афіцыйна выступаюць супраць Ганчарыка 4 з 32 галіновых прафсаюзаў: аховы здароўя, лёгкай прамысловасьці, камунальшчыкі і часткова аграрнікі. Большасьць ставіцца да ўсяго нэўтральна. Такім чынам, пра ўзьнікненьне ўнутранай апазыцыі ў прафсаюзах гаварыць не выпадае.

**"НН": Ці сталі прафсаюзы за апошні год сапраўды незалежнымі?**

**А.С.:** Яны — зрэз грамадзтва. Амаль усё працоўнае насельніцтва ўваходзіць у прафсаюзы. І з БНФ, і з КПБ. Існуе пэўная колькасьць прагрэсіўных людзей, якія спрабуюць нешта зрабіць, зьмяніць. Працэс трансфарамацыі савецкіх квазіпрафсаюзаў у сучасныя, што ва ўсім цывілізаваным сьвеце існуюць, рухае авангард, куды, безумоўна, уваходзіць Ганчарык. Але беларусы ў цэлым не гатовыя сёньня бараніць нават свае эканамічныя правы.

**Гутарыў Ігнат Чакацкі**

## Абаронцы Курапатаў перамагаюць

**У пятніцу абаронцы Курапатаў дамагліся, каб будаўнікі пусьцілі трубы вадасьцёку з-пад кальцавой дарогі ня ў бок курапацкага мэмарыялу, а ў бок вадасховішча Цна.** Інакш гэта пагражала б сэзонным падтапленьнем часткі мэмарыялу.

## Севярынец на "сутках" пісаў для "НН"

**У пятніцу выйшаў на волю Павал Севярынец, які адседзеў 17 сутак і 15 гадзінаў за абарону Курапатаў і ўшанаваньне памяці менскіх падпольшчыкаў.** 10 сутак Павал правёў у ізалятары часовага ўтрыманьня Менскага раёну, 7 сутак і 15 гадзінаў — у спэцпрыёмніку-разьмеркавальніку на Акрэсьціна. Сядзець было цяжка: у ізалятары даймалі клапы, на Акрэсьціна было надта вільготна і халодна. У няволі Севярынец працаваў над сваім праектам праграмы БНФ да зьезду і пісаў вялікі артыкул для "НН", які будзе надрукаваны ў адным з наступных нумароў.

## Урад ня выкупіць чэкаў "Маёмасьць"

**Дзяржава ня будзе купляць нявыкарыстаных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасьць" пасьля 1 ліпеня 2002 г.** З прычыны малой канкурэнтаздольнасьці прадпрыемстваў, акцыі якіх урад прапаноўваў набываць грамадзянам, у насельніцтва засталося блізу 200 млн. чэкаў. Сёньня намінальны кошт чэка складае 3 тыс. рублёў, то бок, каб усе іх выкупіць, трэба болей за 100 млн. даляраў. Грошай на гэта ва ўраду ня будзе.

## Беларуска ацалела

**У выніку катастрофы шрубалёту Мі-2 пад Дудзінкай загінулі 6 чалавек.** Выжыла толькі 35-гадовая жыхарка Нарыльску, супрацоўніца ТАА "Энэргатэх" Натальля Пацук — беларуска паходжаньнем. Зараз яна ў рэанімацыі.

**Мікола Бугай**




**60 год таму ў Беларусі пачаўся Галакост, у якім загінулі ад 700 да 800 тысячаў нашых суайчыньнікаў габрэйскай крыві. Але тады, калі большасьць з маўклівым жахам ці абыякавасьцю назірала, як гінуць *свае чужыя*, знаходзіліся сьмелыя, якія, рызыкуючы жыцьцём, ратавалі тых, каго гітлераўцы пастанавілі сьцерці зь зямлі і гісторыі. У Беларусі сёньня жыве больш за 300 такіх людзей, якіх удзячныя ўратаваныя называюць "праведнікамі". У вёсцы Парэчча на Пухавіччыне, дзе знайшлі паратунак чатыры дзясяткі габрэйскіх дзяцей, паўстаў першы і пакуль адзіны ў Эўропе помнік Праведнікам народаў сьвету. Старонка 6.**



# Партрэт белнэтчыкаў

## *Адбыўся Трэці беларускі інтэрнэт-форум*

Расейская мова, якая пануе на беларускіх сайтах, інфармацыя з расейскіх крыніцаў на некаторых рэсурсах нашага Сеціва ставіць пад сумнеў самабытнасьць Белнэту. Аналітык расейскай агенцыі www.netoscop.ru Натальля Хайціна нават назвала яго "адным з рэгіянальных расейскіх нэтаў".

Такое ўражаньне пра нашае Сеціва складаецца з прычыны адсутнасьці ў нашай краіне сур'ёзнага рэсурсу Інтэрнэт-навінаў і аналітыкі. Інфармацыя пра Белнэт трапляе ў замежныя СМІ з рэдкіх электронных апытаньняў ды артыкулаў у буйных выданьнях (*БДГ, БГ*). А ў нас цяпер не працуе ніводзін вэб-аглядальнік. Спыніўся апошні інфармацыйны *online*-рэсурс, прысьвечаны беларускаму Інтэрнэту — www.belarusmedia.com. Па словах ягонага стваральніка Алега Цішкова, ніхто не падтрымаў ідэю праекту, а аднаму рабіць такі сайт цяжка.

Але ўсё ж беларускае Сеціва існуе. Агенцтва інтэрнэт-рэкламы Mediareklama.com дасьледуе сацыяльны партрэт беларускага "юзэра". Перад Форумам было праведзенае інтэрнэт-апытаньне, у якім удзельнічалі 3107 карыстальнікаў. Высьветлілася, што 73,5% апытаных беларускіх карыстальнікаў Нэту рэгулярна наведваюць беларускія сайты. Зь іх 33,1% робяць гэта штодня, і колькасьць такіх вырасла за апошні год утрая (летась толькі чвэрць беларускіх інтэрнэтчыкаў штодзень наведвалі беларускія сайты). Значыць, у Белнэце ёсьць што глядзець.

Якіх сайтаў чакае беларускі карыстальнік, якія рэсурсы патрэбныя ў першую чаргу і сапраўды здолеюць павярнуць тварам да нашага Сеціва ўжо далучаных да Інтэрнэту людзей?

Працяг на старонцы 3.

**80% ад беларускай інтэрнэт-аўдыторыі складаюць мужчыны. Жанчынам за хатнімі справамі няма калі. Зь іншага боку, чатыры пятыя знаёмых з Інтэрнэтам беларусаў — менчукі.**

**А вось такія дарожныя знакі пакуль у Беларусі не сустракаюцца.**



## Навіны гаспадарскія

# Адракаемся гатоўкі

**Намесьнік міністра эканомікі Мікола Зайчанка пацьвердзіў інфармацыю пра тое, што ўсе апэрацыі па набыцьці аўтамабіляў, жытла і тавараў коштам, эквівалентным 200 даляраў ЗША і вышэйшым, будуць ажыцьцяўляцца безнаяўным шляхам.** Каб нешта купіць, трэба будзе пералічыць адпаведную суму на ўкладны рахунак у банку ці на рахунак індывідуальнага прадпрымальніка. Гэта робіцца, каб зьвязаць наяўныя грошы насельніцтва. Нацбанк Беларусі не падтрымлівае гэтых плянаў, бо лічыць іх адміністрацыйнай мерай.

**Геолягі сьцьвярджаюць, што Беларусь амаль гэткая ж багатая на алмазы, як і Якуція.** Калі меркаваць па складзе мінэралаў у нетрах, дык алмазныя трубкі павінны быць на 40% тэрыторыі краіны. Але найбольш пэрспэктыўнай падаецца выведка іхных радовішчаў на Жлобіншчыне.

**Налета Нацбанк зьбіраецца скасаваць правіла продажу валюты насельніцтву толькі пры наяўнасьці пашпарту ды ліквідаваць** абмежаваньні на набыцьцё валюты для прадпрыемстваў. Ліцэнзіі на гандаль за валюту ў межах Беларусі будуць выдавацца прадпрыемствам толькі на год. Гэтак дзяржава заахвочвае перавесьці ўсе разьлікі на беларускія рублі.

**Каб нармальна харчавацца, "сярэдні" беларус павінен выдаткоўваць у месяц ня менш за 44,3 тыс. рублёў.** Найдаражэйшы "харчовы кошык" цяпер у Менску (51,3 тыс.), а найтаньнейшы — у Горадні (39,8 тыс.)

**З 1 сьнежня "мінімалка" падвысілася да 10 тыс. рублёў, а найменшая стаўка аплаты працы — да 19,5 тыс.** Зьмяніліся і памеры сукупных падаткаў. Цяпер 9% ад заробку павінны плаціць тыя, хто атрымаў за год меней за 1 549 920 рублёў. Усе, хто зарабляе болей і мае некалькі працаў, мусяць падаваць дэклярацыі пра даходы. У адпаведнасьці зь імі з заробкаў ад 1 549 921 да 3 874 800 руб. будзе спаганяцца 15%, з заробкаў ад 3 874 801 да 5 424 720 руб. — 20%, з заробкаў ад 5 424 720 да 6 974 640 руб. — 25% і 30% — з заробкаў, большых за 6 974 640 руб.

**Амаль на 13% падаражэлі таксоўкі.** Цяпер за кожны кілямэтар з 6 да 22 гадзінаў трэба плаціць 350, а з 22 да 6 гадзінаў — 525 рублёў. За пасадку гэткія самыя тарыфы, як і за кілямэтар язды, а за прастой — удзень 3500, уначы 5250 руб. Замова машыны каштуе 300 рублёў.

**Менгарвыканкам вырашыў канчаткова прыбраць камэрцыйныя шапікі з галоўных вуліцаў сталіцы.** Цяпер прадпрымальнікам давядзецца або спыняць тут справу ўвогуле, або ўсталёўваць за свой кошт (блізу 2 тыс. даляраў) шапікі, умантаваныя ў новыя прыпынкі транспарту.

**Каб дзяржава мела магчымасьць падвысіць сярэднія заробкі да 250 даляраў праз 4 гады, беларускія прамыслоўцы мусяць выrabляць на траціну больш тавараў і на 50% павялічыць іхны экспарт.** Каб заахвоціць вытворцаў да гэтага, урад абяцае на 5—6% зьнізіць падаткі, якія зараз складаюць траціну ад прыбытку.

**У 2002 г. пасьля сэртыфікацыі ўсе цырульні будуць падзеленыя на "звычайныя", "салёны" і "люксы".** Кошты ў звычайных цырульнях будуць рэгулявацца дзяржавай, у салёнах і люксах — рынкам.

**На пачатак лістапада ў бюджэт трапіла на 125 млрд. рублёў падаткаў менш, чым было заплянавана на гэты час.** Траціну дэфіцыту зьбіраюцца кампэнсаваць продажам часткі акцыяў 16 дзяржаўных прадпрыемстваў, самыя вядомыя зь якіх — Добруская папяровая фабрыка, "Рэчыцадрэў" і магілёўскі завод "Стужка". Плянуецца прадаць ад 8 да 15% акцыяў гэтых прадпрыемстваў. Найбольш акцыяў — аж 50% — выставіў на продаж Гомельскі дарожна-будаўнічы трэст. Вось толькі невядома, ці хто набудзе.

**Расейская кампанія "Піт", кантрольны пакет акцыяў якой належыць амэрыканцам, рыхтуецца наладзіць вытворчасьць піва ў Беларусі.** Расейцы зьбіраюцца купіць за 30 млн. даляраў 1—2 беларускія бровары (сярод найбольш рэальных кандыдатаў — рэчыцкі, лідзкі, бабруйскі, берасьцейскі ды менская "Аліварыя").

**Паводле інфармацыі МЗС Беларусі, экспарт паслуг за студзень-верасень 2001 г. склаў 794,1 млн. даляраў** і вырас у параўнаньні з такім жа пэрыядам у 2000 г. на 12,8%. У краіны СНД (пераважна ў Расею) экспарт падвысіўся на 28,8%, у далёкае замежжа — на 3,8%. Найбольшую вагу маюць транспартныя паслугі — 64,3%, у параўнаньні з 2000 г. яны вырасьлі на 10,6%. Экспарт будаўнічых паслугаў падвысіўся на 80%, а паслугаў сувязі — на 13,5%. Дзяржаўныя і фінансавыя паслугі вырасьлі на 60%, кампутарныя і інфармацыйныя — на 70%. Адначасова назіраецца зьмяншэньне экспарту страхавых (на 120 тыс. даляраў) і турыстычных (на 785,5 тыс. даляраў) паслугаў.

**Вызначаныя курсы абмену нацыянальных валютаў 12 краінаў Эўразьвязу.** З 1 студзеня эўра будзе каштаваць 0,787 ірляндзкага фунта, 1,955 нямецкай маркі, 2,203 галяндзкага гульдэна, 5,945 фінскай маркі, 6,559 францускага франка, 13,760 аўстрыйскага шылінга, 40,339 бэльгійскага і люксэмбурскага франка, 166,386 гішпанскай пэсэты, 200,482 партугальскага эскуда, 340,750 грэцкай драхмы і 1 936,27 італійскай ліры.

**Сяржук Іваноўскі і ўл. інф.**



IREX-PROMEDIA

# Пагроза з Расеі

**У Беларусі зарэгістравана каля 4000 ВІЧ-інфікаваных. Чатыры пятыя зь іх маладзейшыя за 28 гадоў. Жыве ў Беларусі і 30 ВІЧ-інфікаваных дзяцей да 14 гадоў. СНІД насоўваецца на нас з Расеі, дзе сёлета распачалася сапраўдная эпідэмія. У 2000 г. там было зарэгістравана 35 тыс. новых выпадкаў захворваньня (столькі сама было адзначана за папярэднія 13 год), а на працягу першых пяці месяцаў 2001 г. — аж 65 тысяч! Расьце колькасьцьВІЧ-інфікаваных ва ўсіх буйных расейскіх гарадах — ад Уладзівастоку да Калінінграду. Паводле падлікаў спэцыялістаў, цяпер у Расеі паўтара мільёны хворых на СНІД. І штогод іх робіцца ўдвая больш. Увогуле, эпідэмія нідзе не распаўсюджваецца такімі тэмпамі, як у Расеі і Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропе. У нашым усходнеэўрапейскім рэгіёне заражаных пакуль менш, чым у Расеі — іх колькасьць экспэрты UNAIDS ацэньваюць у 700 тыс. чалавек. Яшчэ год таму іх было 420 тыс. Так, у Эстоніі два гады таму было толькі 12 ВІЧ-інфікаваных, а са сьнежня да верасьня 2001 г. выяўлена аж 1112 выпадкаў. Пра тое, да чаго прыводзіць адсутнасьць процідзеяньня эпідэміі, можна меркаваць на прыкладзе Паўднёвай Афрыкі. У сталіцах краінаў Паўднёвай Афрыкі палова жанчын ад 20 да 29 год — носьбіткі ВІЧ. У Зімбабвэ няма каму працаваць у школах, бо штогод ад СНІДу памірае больш настаўнікаў, чым рыхтуюць унівэрсытэты. Летась замбійскія аэрлініі на працяглы час перапынілі палёты, бо колькасьць хворага пэрсаналу перасягнула крытычныя рамкі. Толькі асобныя краіны здолелі стрымаць эпідэмію. Так, у Тайляндзе колькасьць новых заражэньняў зьнізілася на працягу дзесяці год са 140 тыс. да 30 тыс., у Бразыліі, Сэнэгале й Угандзе — напалову. Рапарт міжнароднае арганізацыі "Анты-СНІД" паведамляе, што сярод дасьледаваных маскоўскіх прастытутак ажно 15% — носьбіткі вірусу ВІЧ. Калі ўлічыць, што вялікая частка зь іх — зь Беларусі, і што ўсе беларускі з часам вернуцца дадому, можна толькі жахнуцца.**

# Кальварыя пад аховай

**Навукова-мэтадычная рада па пытаньнях гісторыка-культурнае спадчыны пры Міністэрстве культуры надала мэмарыяльнаму комплексу "Кальварыйскія могілкі" статус гісторыка-культурнай каштоўнасьці першай катэгорыі.**

"НН" тройчы зьвяртала ўвагу грамадзтва на Кальварыю: у №3 за 1998 г. зьявіўся гістарычны артыкул Алега Дзярновіча, у якім падрабязна распавядалася пра ўзьнікненьне Кальварыйскіх могілак, пабудову брамы і касьцёлу. У №44 за 2000 г. — артыкул-гутарка Тацяны Сьнітко з Алай Сакалоўскай, аўтаркай кнігі "Кальварыя". У №46 за 12 лістапада 2001 г. быў надрукаваны ліст *Rydel'я*, чытача газэты, узрушанага пабачаным на могілках вандалізмам. Рэпартажы пра Кальварыю зьявіліся на радыё "Рацыя", у іншых газэтах. Пасьля гэтага грамадзкасьць заварушылася, паўстала грамадзкая ініцыятыва па ўратаваньні Кальварыйскіх могілак. Чыноўнікі адрэагавалі.

**Э.Л.**

## З усёй краіны

### У Крывічах замерз дзяцюк

**У Крывічах (Мядзельшчына) ля ракі Сэрвач знайшлі труп юнака.** Гэта быў студэнт-другакурсьнік Гарадзенскага ўнівэрсытэту, які прыехаў да сяброў. Пайшоў на дыскатэку, выпіў. Адышоўшы з танцаў, заблукаў і трапіў у балаціну, зь якой ня здолеў выбрацца. Дактары кажуць, што памёр ад пераахаладжаньня. Гора і бацькам, і сябрам.

### Тралейбус прыйдзе ва ўсе стотысячнікі

**У Баранавічах, Пінску, Воршы, Полацку і Наваполацку, Лідзе, Барысаве, Салігорску і Маладэчне пусьцяць тралейбусы.** Машыны будуць беларускай вытворчасьці — зь Белкамунмашу. Сёньня тралейбусы езьдзяць у сямі гарадах Беларусі.

### Валожынцам загадалі рыхтаваць дровы

**Валожынскі аддзел адукацыі загадаў усім тэхнічным работнікам Каменскай, Дорскай, Падбярэскай і Багданаўскай школаў нарыхтоўваць дровы.** Транспарт дасьць раённы аўтапарк. Гэта робіцца, каб зэканоміць ужо нарыхтаваныя 188 тонаў вугалю і 620 тонаў брыкету і на довах пэратрываць да моцных маразоў.

### Пранцы наступаюць

**У Гомелі скончыўся 4-ы зьезд дэрматолягаў і вэнэролягаў (бралі ўдзел 160 спэцыялістаў).** Мэдыкі занепакоена канстатавалі, што за год колькасьць носьбітаў пранцаў у Беларусі вырасла ў чатыры разы. Цяпер іх на ўліку 42 тыс., сярод іх ёсьць нават дзеці. Першае месца трымае Гомельская вобласьць, што можна патлумачыць міграцыйнымі працэсамі.

**Паводле "Рэгіянальнай газэты", БелаПАН і ўл.інф.**

### Па бутэльку – за 100 км

**Сто кілямэтраў праехаў на трактары мэханізатар калгасу імя Дзяржынскага, што ў Камянецкім раёне, Мікалай Крунта.** Затрымалі яго ў 22.50 супрацоўнікі Кобрынскага ДАІ. Мэханізатар так патлумачыў сытуацыю: "Паехаў за бутэлькай. Нідзе не сустракалася крама. Так і даехаў да Кобрыня". Міколу на 3 гады пазбавілі правоў. Давядзецца па гарэлку хадзіць пешкі.

**Аляксандар Горбач, Івацэвічы**

### 250 скрыняў іголак

**Днямі ў пункце памежнага кантролю "Гудагай" Астравецкай пагранкамэндатуры быў выяўлены чарговы кантрабандны тавар.**

Кантрабандысты спрабавалі пераправіць зь Літвы швейныя іголкі і зьмяшальнікі. Каб не плаціць мытных пошлінаў, 250 скрыняў з іголкамі і 22 зьмяшальнікі яны прыхавалі ў канструкцыях вагонаў. Паводле папярэдніх падлікаў, кошт знойдзенага тавару — 8 млн. 510 тыс. рублёў.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

### Польскі бізнэс у Доме літаратара

Бізнэсоўцам, якія маюць або зьбіраюцца мець гешэфты з польскімі калегамі, цікава будзе наведаць сэмінар "Добрасуседзтва-2001", які адбудзецца 5—6 сьнежня ў менскім Доме літаратара (вул.Фрунзэ, 5). Там будуць прадстаўленыя бізнэс-асацыяцыі, гандлёвыя палаты і чыноўнікі з абедзьвюх дзяржаваў. Для палякаў сэмінар станецца своеасаблівай "выведкай " — пасол Машкевіч якраз заклікаў інвэставаць у Беларусь. Для нашых — магчымасьцю адшукаць новыя рынкі збыту. Пачатак а 10-й.

## Пацярпелыя

### МІЦ зачынілі

**Вярхоўны суд ліквідаваў грамадзкую арганізацыю "Моладзевы інфармацыйны цэнтар", якую ўзначальвае былы лідэр Задзіночаньня беларускіх студэнтаў Алесь Міхалевіч.** Міхалевіч лічыць, што загад на закрыцьцё прыйшоў "зьверху", але не зьбіраецца згортваць дзейнасьць, проста перавядзе яе ў іншую плоскасьць.

## Баскетбол

# Сьлізкі паркет

**Ёсьць тры клясычныя "паркетныя" віды спорту — баскетбол, валейбол і гандбол. Наймацнейшыя традыцыі беларусы маюць у гандболе, і мы традыцыйна чакаем посьпехаў менавіта тут. Аднак апошнія гады з гандболам нам не шанцуе, вось і сёлета мы чарговы раз ня трапілі ў Лігу чэмпіёнаў, і павыляталі з эўракубкаў.**

Тым часам неспадзявана "падцягнуўся" баскетбол. Нашыя мужчынская і жаночая зборныя ўзялі старт у паўфінальных турнірах чэмпіянатаў Эўропы'2003.

Трыццаць мужчынскіх камандаў разьбітыя на пяць групаў па шэсьць зборных. Нашыя патрапілі ў групу разам з французамі, латышамі (яны лічацца фаварытамі), а таксама вугорцамі, палякамі ды эстонцамі. Двум апошнім мы прайгралі ў папярэднім цыклі. Але перад пачаткам турніру трэнэр беларусаў Аляксандар Барысаў разглядаў трэцяе месца, якое выводзіць у фінал Эўропы'2003, як рэальнае. Аднак за тыдзень мы прайгралі тры матчы. Без барацьбы саступілі ў Таліне эстонцам — 56:84, потым дома "ляглі" пад французаў — 61:85, а ў мінулую сераду ў гасьцёх прайгралі латышам — 91:115. Шанцы выкарабкацца ёсьць, аднак яны з вобласьці фантастыкі. Наступныя гульні ў трэцяй дэкадзе студзеня — з палякамі і вугорцамі. На сёньняшні момант нашая мужчынская зборная згуляла 60 матчаў, зь іх выйграла 24 (40%). Слаба.

Больш надзеяў было на жанчын. Тым больш, што да цяперашняга цыклю нашая жаночая зборная згуляла 30 афіцыйных гульняў і атрымала 16 перамог (53,3%), што было добрым паказьнікам.

Нас "пасеялі" ў адной групе з камандамі Славаччыны, Латвіі ды Югаславіі. З групы выходзяць на Эўропу дзьве каманды. Аднак беларускі ня спраўдзілі надзеяў, у першым матчы ў гасьцях "зьлілі" славачкам — 65:74. Наступны матч гулялі дома са зборнай Латвіі. Дзьве першыя чвэрці мы выйгравалі: 42:29, але ня вытрымалі і цалкам правалілі трэцюю і чацьвертую чвэрці, у выніку — 71:77. У мінулую сераду мы прайгралі зборнай Югаславіі 74:94. Таму пэрспэктывы жаночае каманды такія ж, як у мужчынскае.

Матч у Менску супроць латышак быў... першай афіцыйнай гульнёй нашай жаночай каманды на тэрыторыі РБ! Па сутнасьці, у першы раз мы маглі ўбачыць сваю зборную ў дзеяньні. Што надае аптымізму, дык гэта тое, ўто ня зводзяцца ў нас на Беларусі сапраўдныя прыгажуні. У гэтым пляне вылучаецца Сьвятлана Вольная, якой бы яшчэ трошкі прыбавіць у гульні. А так, шкада, што наступныя гульні ў Менску адбудуцца толькі праз год.

Застаецца цярпліва чакаць 11 лютага, калі стартуе хакейны турнір Алімпіяды ў Солт-Лэйк-Сыты. Нашыя байцы выйдуць на лёд з французамі. На "паркеце" ж пакуль можна ставіць крыж.

**А.U. і А.Н.**

Працяг са старонкі 1.

Каштоўнасьць сайту залежыць ад унікальнасьці яго зьместу, ад долі ў ім інфармацыі пра беларускія зьявы і праблемы. Такімі рэсурсамі ёсьць, да прыкладу, нашыя віртуальныя бібліятэкі: www.knihi.com, www.mylib.com; забаўляльны рэсурс "Карчма ў старога Язэпа" (www.jazep.f2s.com); вядомы беларускі партал і каталёг "Дзед Талаш" (dt.home.by), лічыльнік akavita.com, які дае мора цікавай статыстыкі. Вельмі важна зараз было б разьвіць штодзённа абнаўляныя рэсурсы ды беларускія сайты паслугаў: электроннай пошты, надвор'я, статыстыкі, каталёгаў і пошукавых сыстэмаў. Таму трапляе "ў струмень" партал tut.by.

Неабходнай умовай утрыманьня карыстальнікаў у нашым Сеціве зьяўляецца сыстэма беларускіх інтэрнэт-крамаў shop.by, якая прадастаўляе "гандлёвыя пляцоўкі" ўсім, хто хоча распачаць свой бізнэс у Нэце. Цяпер на shop.by працуе пад 100 крамаў. Самыя папулярныя гандлююць дыскамі і кнігамі, але ёсьць і такія, што прапануюць ровары і наручныя дазымэтры.

**Аліса Бізяева**

# Партрэт белнэтчыкаў



**Беларускі інтэрнэт-форум (www.by2000.net) ладзіцца з 1999 г. Аўтар ідэі і дырэктар - Іван Пятровіч. Заснавальнікі - бізнэс-школа Інстытуту прыватызацыі і мэнэджмэнту, часопіс "Інтэрнэт&Бізнэс", міжнародная арганізацыя *Global Internet Policy Initiative*. Спонсары - кампанія *IBA* і карпарацыя *Intel*. У Трэцім інтэрнэт-форуме ўдзельнічалі 150 чалавек.**

**На інтэрнэт-форуме by'2001 агенцыя "Мэдыярэкляма" прадставіла вынікі *online*-анкетаваньня, мэтай якога было вывесьці сацыяльна-дэмаграфічны партрэт беларускіх карыстальнікаў Сеціва.**

**75% інтэрнаўтаў замужнія або жанатыя. Болей за ўсё аматараў Інтэрнэту сярод 21—30-гадовых — 35%, далей ідзе праслойка тых, каму ад 19 да 21 году, — 26%, каму менш за 18 гадоў — 20%, асобаў у веку ад 31 да 45 гадоў — 14%. Беларусаў-інтэрнэтчыкаў зь сярэдняй ці сярэдняй спэцыяльнай адукацыяй мала — адпаведна 16% і 8%. Самая вялікая сацыяльная катэгорыя белнэтчыкаў — студэнты (амаль траціна).**

**З Інтэрнэтам маюць справу найперш тыя, чыя праца ці вучоба зьвязаная з кампутарамі і сувязьзю (36,7%), занятыя ў сфэрах здароўя, мэдыцыны, спорту, адукацыі і навукі — 11,7%, у прамысловасьці — 8,1%, у гандлі — 5,1%, дзяржслужбоўцаў — 7,7%.**

**Што шукаюць нашыя суайчыньнікі там? У асноўным гэта кампутарная тэматыка — 23%, навіны і забаўкі — па 15%. Штодня ў Інтэрнэце бывае кожны трэці яго заўзятар, 2—3 разы на тыдзень — 40%. Палова звычайна гэта робіць дома.**

**Толькі 16% нашых карыстальнікаў Інтэрнэту маюць пэйджэр, 19% — сотавы тэлефон, 30% — машыну. Так што далёка ня ўсе, хто ня можа без Інтэрнэту, людзі заможныя. Проста ў іх дужа вялікая цяга да прагрэсу.**

**Ігнат Чакацкі**

## Трэці інтэрнэт-форум

**Форум-2001 вырашаў надзённыя праблемы Сеціва.** Загадчык аддзелу перадачы інфармацыі "Белтэлекаму" Алег Сякліцкі, распавядаючы пра работу сваёй арганізацыі ў 2001 г., пахваліўся, што летась "Белтэлекам" адкрыў па рэспубліцы 390 каналаў доступу ў Сеціва: 120 у Берасьцейскай вобласьці, 90 — у Віцебскай і па 60 у Гарадзенскай, Магілёўскай і Гомельскай.

Зьміцер Качаноўскі, стваральнік каталёгу камэрцыйных рэсурсаў Беларусі kosht.com, казаў, што рэклямны сайт таксама патрабуе рэклямы й раскруткі (так, kosht.com "самарэклямуецца" ня толькі ў Інтэрнэце, але й традыцыйнымі сродкамі — праз аб'явы ды ўлёткі). Юры Зісер распавёў пра рэкляму тавараў і паслуг на беларускім партале tut.by. На яго думку, выжывае той бізнэс у Інтэрнэце, які грунтуецца на традыцыйнай камэрцыйнай дзейнасьці.

На трэці дзень абмяркоўвалі пытаньні беларускага заканадаўства, падаткаабкладаньня і бясьпекі ў сфэры інтэрнэт-тэхналёгіяў. Рыхтуецца новы закон аб СМІ, згодна зь якім электронныя інфармацыйныя рэсурсы будуць прыраўнаваныя да "невіртуальных" сродкаў масавай інфармацыі. Калі не зьмяніць гэты пункт, давядзецца нават хатнюю інтэрнэт-старонку, якую можна самому за паўгадзіны на кампутары зрабіць, рэгістраваць як газэту.

У дакладах на форуме было менш самарэклямы, чым летась, больш практычных парадаў, у якасьці прыкладаў удзельнікі разглядалі беларускія праекты, якіх год таму было істотна меней. Якія тавары лепш прадаваць праз інтэрнэт-краму (даклад Алены Ўдановіч, diva.by)? Як камерцыйнаму прадпрыемству акупіць сайт (Сяргей Восіпаў, вэб-студыя *RedGraphic*)? Якія нормы заканадаўства выкарыстоўваць для абароны аўтарскага права (Андрэй Цітоў, Нацыянальны цэнтар прававой інфармацыі)?

### Колькі год Белнэту?

**Адна з мэтаў Форуму — сьвяткаваньне 10-годзьдзя Белнэту.** За пункт адліку ўзятая рэгістрацыя першага вузла электроннай пошты ў Сакратарыяце Вярхоўнага Савету Беларусі ў лістападзе 1991 г. Але ня ўсе згодныя з гэтай датай. Шмат хто мяркуе, што адлік трэба пачынаць ад часу зьяўленьня першых беларускіх рэсурсаў. Першыя сайты пра Беларусь былі зробленыя эмігрантамі (*The Virtual Guide to Belarus* — www.belarusguide.com; *Belarus Miscellany* — www.belarusmisc.org). Першыя беларускія рэсурсы ў Сеціве пачалі зьяўляцца ў 1995 г. Ужо некалькі год у паветры лунае ідэя сабраць інфармацыю пра першыя беларускія сайты і людзей, што іх рабілі, і напісаць гісторыю Байнэту. Для гэтага створаны рэсурс www.ten.by.

**Удакладненьне**

У звароце да чытачоў "Шаноўныя чытачы-нашаніўцы" ў мінулым нумары "НН" была карэктарская памылка: "Белпошта" за дастаўку газэты падпісчыкам бярэ не 98%, як было памылкова напісана, а 48% ад падпіснае цаны. Перапрашаем.

# Саюзны парлямэнт плача па Пазьняку

**Ці не найбольшыя супярэчнасьці ў беларускім незалежным грамадзтве налета будзе выклікаць пытаньне пра ўдзел апазыцыі ў выбарах у так званы "саюзны парлямэнт" Расеі і Беларусі.**

Нашая палата прадстаўнікоў і расейская Дзярждума неўзабаве маюць прыняць законы аб выбарах у гэты парлямэнт. Самі ж выбары могуць адбыцца ўжо ў першым паўгодзьдзі 2002 г.

Спрэчкі вакол выбараў у саюзны парлямэнт моцна нагадваюць тыя, што вяліся ў 2000 г. вакол выбараў у "палатку". Прыхільнікі ўдзелу ў выбарах мяркуюць, што гэты ўдзел адкрывае апазыцыі шырэйшыя магчымасьці для інфармаваньня насельніцтва, агітацыі, самарэклямы. Праціўнікі разглядаюць удзел у выбарах як фактычнае прызнаньне незаконных палітычных рашэньняў, прыняцьце чужых правілаў гульні й маральную паразу. Яны кажуць, што бюджэт саюзу будзе мізэрны, а "саюзны парлямэнт" — дэкаратыўны, сымбалічны орган, пазбаўлены рэальнай улады. Таму, маўляў, прыняўшы чужыя правілы гульні, апазыцыя нічога не атрымае ўзамен, нават калі здолее трапіць у гэты парлямэнт.

Так, удзел у гэтых выбарах наўрад ці прынясе апазыцыі істотныя дывідэнды, але й праз няўдзел у выбарах яна прайграе.

Сродкі і мэтады барацьбы нашай палітычнай апазыцыі за ўладу істотна не зьмяняліся ад 1996 г. Грамадзтва прызвычаілася да іх і перастала зьвяртаць увагу. Налепкі і ўлёткі ўсё часьцей успрымаюцца як творы выяўленчага мастацтва, стаюць хутчэй прадметам зацікаўленьня калекцыянэраў, чым выконваюць прапагандысцкія функцыі. Вулічныя акцыі пратэсту ператвараюцца ў пэрформансы, робяцца больш тэатральнымі і менш палітычнымі. Складаецца ўражаньне, што апазыцыя з-за немагчымасьці рэальна ўплываць на беларускую палітыку збольшага засяродзілася на стварэньні экспанатаў для будучага музэю беларускага супраціву.

Як засьведчылі апошнія выбары, апазыцыя ўзору 1996 г. вычарпала свой патэнцыял. Так ці інакш, паўстане яе новая сыстэма. Пытаньне ў тым, каму будзе належаць ініцыятыва ў стварэньні гэтай сыстэмы — Лукашэнку ці незалежнаму грамадзтву.

Лукашэнку апазыцыя патрэбная для больш дэмакратычнага іміджу, прызнаньня ў сьвеце. Тая апазыцыя, што ёсьць, яго не задавальняе, бо не прымае ягонай вэрсіі нацыянальнай ідэі і становіць пагрозу пераемнасьці гэтай вэрсіі, пагражае зьнішчыць справу ягонага жыцьця — Рэспубліку Беларусь у яе сучасным выглядзе. Таму Лукашэнка хацеў бы падмяніць гэтую апазыцыю іншай. Сёньняшняя крыза апазыцыйных партыяў, агульнае зьмяншэньне цікавасьці да іх спрыяюць стварэньню ў краіне кантраляванай "канструктыўнай" апазыцыі.

Для гэтага сьпярша трэба выцесьніць з грамадзкай сьвядомасьці "няправільную" апазыцыю. Што Лукашэнка і робіць цягам усяго свайго прэзыдэнцтва: з тэлевізіі ён выгнаў апазыцыю ў недзяржаўныя газэты, з парлямэнту — на вуліцу, з вуліцы — на балота. Далей адступаць няма куды, далей — забыцьцё.

Магчымыя выбары ў саюзны парлямэнт — першая вялікая палітычная падзея пасьля прэзыдэнцкіх выбараў. Грамадзкая дыскусія вакол гэтай падзеі, стаўленьне да яе палітычных партыяў, прэсавыя выступы палітыкаў, агітацыя, урэшце, самі выбары могуць стацца тым грунтам, на якім пачнецца фармаваньне новай палітычнай сцэны Беларусі. Няўдзел у выбарах альбо чыста нэгатыўны ўдзел — байкот — пакіне апазыцыю ўбаку ад гэтай сцэны. Байкот выбараў — дапамога ўладзе ў байкатаваньні апазыцыі.

Безумоўна, браць удзел у выбарах небясьпечна. Рэжым можа часткова асыміляваць, "абканструктывіць" апазыцыю. Але ў беларускай гісторыі ёсьць прыклады пасьпяховага змаганьня з колькасна большым праціўнікам — ад перамогі пад Воршай да перамогаў фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня. Дарэчы, чаму БНФ не заклікаў да байкоту выбараў у той Вярхоўны Савет, яны ж не былі дэмакратычнымі? Што так радыкальна зьмянілася? Хіба лукашэнкаўская канстытуцыя горшая за брэжнеўскую? І хіба было б на шкоду незалежнасьці Беларусі, калі б, скажам, Зянон Пазьняк у 2002 г. стаў дэпутатам саюзнага парлямэнту?

Увогуле складаецца ўражаньне, што станоўчы ці адмоўны адказ на пытаньне пра тое, ці варта ўдзельнічаць у выбарах (у мясцовыя саветы, у палату прадстаўнікоў, у саюзны парлямэнт), часьцяком абумоўлены ня столькі ўласна палітычнымі меркаваньнямі, колькі складам самой асобы, што адказвае, — пэўнымі рысамі характару, індывідуальнай схільнасьцю ці нясхільнасьцю да кампрамісаў, асабістымі перакананьнямі, набытымі цягам жыцьця. Хтосьці кажа — не, бо не, няма такога саюзу, з бандытамі не размаўляюць. Прынцып. Хтосьці іншы скажа, што нельга заставацца ўбаку, трэба браць актыўны ўдзел, заўжды і ва ўсім, што можа закрануць твае інтарэсы. Таксама прынцып, таксама варты павагі. Шкада, што сутыкненьне асабістых прынцыпаў у беларускіх варунках можа скончацца ідэалягічна неабгрунтаванымі расколамі партыяў.

Ясна, што будучыня краіны перадусім вызначаецца не на выбарах. Разьвіваецца незалежнае грамадзтва, робіць сваю справу трэці сэктар. Ёсьць гісторыкі, журналісты, бізнэсоўцы, філёзафы, паэты, ёсьць каму перахоўваць і пашыраць беларускі зьмест. А выбары ў саюзны парлямэнт, калі такія адбудуцца, і ягоная дзейнасьць наўрад ці пахіснуць незалежнасьць Беларусі. Дык мо варта проста ігнараваць гэныя выбары, не заўважаць іх, ня ладзіць байкоту, не выстаўляць сваіх кандыдатаў? Маўчаць, каб не павялічваць увагі да іх, не разьдзімаць слана з соннай інтэграцыйнай мухі? Здаецца, што не. Час бяжыць, беларускія палітыкі губляюць форму. Адно назіраньне ня можа даць досьведу, неабходнага для пасьпяховага ўдзелу ў выбарах, калі апазыцыя ўрэшце на гэта наважыцца. Чым раней беларускія палітыкі зоймуцца рэальнай беларускай палітыкай, тым лепей, а інакш палітыку ў Беларусі будуць рабіць замест іх іншыя, менш беларускія.

**Алесь Пяткевіч**

## Новыя мэтады выяўленьня карупцыі

**Затрымалі дырэктара сталічнага аўтарынку Аляксандра Васілеўскага.** Пры вобшуку ў яго знайшлі 30 220 даляраў. Дырэктару інкрымінуюць сыстэматычнае вымаганьне хабару ў прадпрымальнікаў за гандлёвыя месцы. Разам з Васілеўскім затрымалі двух кантралёраў, у якіх пры вобшуку знайшлі 9 780 даляраў.

Спэцслужбы ўжываюць новыя мэтады выяўленьня карупцыі. У адной зь менскіх клінік яны падлавілі хірургаў на хабары дзякуючы падстаўным асобам. Дактары купіліся, бо "пацыентаў" ім рэкамэндавалі іхныя знаёмыя, якіх саміх шантажавалі. Цяпер менскія лекары моцна запалоханыя.

## Міліцыянтаў скароцяць

**Міністар унутраных справаў у пятніцу паведаміў пра скарачэньні ў сваім ведамстве.** Кіраўнічы апарат скароціцца на 15%, скароцяцца і шараговыя аддзелы. Скарачэньне міліцыянтаў звычайна адбываецца толькі ў пэрыяды стабілізацыі грамадзкага жыцьця.

## Прызначэнцы – лібэралы і стаўленікі кланаў

**Зроблены шэраг кадравых прызначэньняў.** Уладзімер Патупчык стаў намесьнікам старшыні Гомельскага аблвыканкаму, Мікалай Гардзіевіч — старшынём Берасьцейскага гарвыканкаму (раней ён быў намесьнікам Даўгалёва ў аблвыканкаме). Старшынём камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў прызначаны Станіслаў Буко (раней кіраваў Партызанскім раёнам Менску), старшынём камітэту лясной гаспадаркі пры Савеце Міністраў — Мікалай Крук (данядаўна кіраваў экспэрымэнтальнай зьвераводчай гаспадаркай на Глыбоччыне), намесьнікамі міністра інфармацыі — Станіслаў Нічыпаровіч і Лілія Ананіч. Разьвіталася з пасадай намесьніцы міністра Падгайнага Г.Ваўчуга. Валеры Ключанковіч стаў намесьнікам міністра аховы здароўя (будзе кіраваць санслужбай). У Менск яго забіраюць з Гомелю.

Лідэры розных ведамстваў, карыстаючыся палітычнаю адлігай, выціскаюць з пасадаў рэакцыянэраў. Гэтак, не атрымаў пакуль былой пасады ў Міністэрстве друку "цэнзар" У.Глушакоў. Як той груба казаў, "служы пану верне, ён табе перне".

## Ісламісты ў Беларусі

**Намесьнік старшыні КДБ Валянцін Нікіцін, выступаючы перад дэпутатамі нацыянальнага сходу, паведаміў, што сярод тых трох тысячаў замежнікаў, што працуюць і вучацца ў Беларусі па лініі міжнароднага гуманітарнага абмену, могуць быць тэрарысты.** Пад асаблівым падазрэньнем — прыбышы з "гарачых кропак". Ці будуць сачыць за "тэрарыстамі", Нікіцін не паведаміў.

## Зьмена караля

**Учора ў менскім кінатэатры "Зьмена" адбыўся ўстаноўчы зьезд сацыял-дэмакратаў — апанэнтаў Міколы Статкевіча.** У зьезьдзе бралі ўдзел 129 дэлегатаў ад 35 арганізацыяў. На баку "партыі Караля" — большасьць суполак Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гарадзеншчыны, а таксама 5 з 9-ці менскіх філіяў БСДГ. Дэлегаты пастанавілі заснаваць "Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю". Кіроўнымі органамі партыі будуць Нацыянальная Рада і Цэнтральны камітэт. У пэрспэктыве партыя мусіць аб'яднацца з БСДГ, пра што ўжо ідуць перамовы. Месца лідэра партыі пакуль вакантнае. Старшынём Нацыянальнай Рады абраны Анатоль Гурыновіч, Цэнтральны камітэт узначаліў Аляксей Кароль, скарбнікам зрабіўся Павал Знавец, рэдактарам друкаванага органу — Анатоль Сідарэвіч. У ЦК увайшлі больш за 20 чалавек, сярод іх Мікола Гіль, Леанід Лойка, Язэп Палубятка, Алесь Сердзюкоў, Міхась Чарняўскі, Мечыслаў Грыб.

**Мікола Бугай**

# Краіну паглынае акіян

Неўзабаве з мапы зьнікне краіна Тувалу — 4-я па меншыні дзяржава сьвету. Гэта дзевяць групаў астравоў у Мікранэзіі, расьцягнутых у акіяне на 560 км. У перакладзе з тамтэйшай мовы назва краіны азначае "васьмёра, што стаяць поплеч" ("васьмёра"— бо адна з групаў астравоў не заселеная).

Праз паўстагодзьдзя акіян можа цалкам затапіць Тувалу, бо нават самае высокае месца на гэтых высьпах не перавышае 5 мэтраў над узроўнем мора. А 11 тысячаў тувальцаў станучь "экалягічнымі ўцекачамі" ўжо налета, бо жыць на падтопленай бацькаўшчыне робіцца немагчыма. Катастрофа адбываецца з-за падвышэньня ўзроўню сусьветнага акіяну.




Тувальцы адчулі подых трагедыі даўно. Калісьці надвор'е на атолах можна было прадказваць ня горш за зьмену дня ды ночы — зь лістапада да красавіка ліў дождж, рэшту году сушыла сонца. Колькі гадоў таму цыкл парушыўся і надвор'е стала цалкам непрадказальным.

Далей — горай. Падчас прыліваў вада пачала ўздымацца ўсё вышэй і вышэй, урэшце мінулай зімой яна на 3 мэтры перавысіла нармальны ўзровень і падтапляе 80% краю. Вада пачала размываць астравы — маленькія рыфы й атолы пасярод воднага бязьмежжа. Да таго ж ураганы, якія з-за пацяпленьня робяцца ўсё больш лютымі, паламалі пальмы — крыніцу заробку (Тувалу экспартавала копру), а прылівы забрудзілі нешматлікія студні зь пітной вадой (на астравах няма ніводнай крыніцы). Тувальцам ня стала чым палівацъ гароды. Японцы падарылі машыну для апрасьненьня вады, але ваду, якую яна вырабляе, купляць мала хто можа, бо занадта яна дарагая.

Урад пачаў перамовы з Аўстраліяй і Новай Зэляндыяй наконт эвакуацыі насельніцтва Тувалу. Нібыта ўдалося дамовіцца з Новай Зэляндыяй, хоць афіцыйны Вэлінгтан пакуль не пацьвярджае гэтае інфармацыі. Урад Тувалу спрабаваў купіць зямлю для перасяленьня ўсяго народу, каб захаваць калі не дзяржаўнасьць, дык хоць кампактнасьць пражываньня, але дагэтуль атрымалася набыць толькі некалькі сотняў гектараў на востраве Фіджы, якіх для ўсіх 11 тыс. тувальцаў відавочна недастаткова.

90% насельніцтва астравоў складае асобны тувальскі народ. Жывуць ня дужа заможна, але паўтары тысячы даляраў ВНП у год на чалавека маюць, экспартуючы копру, рыбу й паштовыя маркі. На турызьме зарабляюць мала — астравы занадта далёкія і малакамфортныя.

Адной з асноўных крыніцаў прыбытку быў продаж паштовых марак (іх можна знайсьці і ў беларускіх шапіках), які цяпер зьмяніў продаж правоў на прывабную прыстаўку "*tv*" у інтэрнэт-адрасах. Незалежнасьць брытанская калёнія Тувалу атрымала ў 1978 г., а ў ААН уступіла толькі летась у верасьні. Гэтыя рэчы мала турбавалі тубыльцаў "зямнога раю" — якая можа быць палітыка ў раі?

У Тувалу няма войска, ёсьць толькі 58 паліцыянтаў, якім няма чаго рабіць: у краіне за апошнія 10 гадоў здарылася адно згвалтаваньне й 2 забойствы ў стане афэкту. Паліцыя пільнуе пяцёх зьняволеных, якім, праўда, дазволена хадзіць удзень на рыбалку — куды ім уцякаць з астравоў. У турму ж яны трапілі за бойку ды "кіраваньне ўначы аўтамашынай з выключанымі фарамі" (гвалтаўнік і забойцы ўжо адседзелі сваё). Кожныя два тыдні выходзіць адзіная газэта накладам пад 300 асобнікаў...

З-за сумнага лёсу далёкае краіны агортвае пэсымізм. Надзеі на спыненьне пацяпленьня няма ніякай, а гэта значыць, што наступ акіяну працягнецца і сваіх дамоў пазбавіцца ўжо ня тысячы, а мільёны людзей. Экалягічныя арганізацыі сьцьвярджаюць, што падвышэньне узроўню акіяну выкліканае сусьветным пацяпленьнем, якое адбываецца з-за выкідаў у атмасфэру велізарных аб'ёмаў вуглякіслага газу. "Грынпіс" прапануе абмежаваць прамысловую вытворчасьць і выкіды выхлапных газаў аўтамабіляў, але ж гэта стварае пагрозу функцыянаваньню сусьветнай эканомікі.

Апанэнты "Грынпісу" адмаўляюць сувязь паміж выкідамі $CO_2$ і глябальным пацяпленьнем ды ўздымам узроўню акіяну і лічаць сёньняшнія экалягічныя працэсы натуральным працягам глябальнага пацяпленьня, якое пачалося пасьля ледавіковае эпохі. Але што з таго тувальцам, якіх спасьцігне доля нашых пераселеных чарнобыльцаў?



Аэрапорт Тувалу

"Грынпіс" і Сусьветны фонд аховы прыроды хочуць зьвярнуцца ў суды па кампэнсацый для пацярпелых ад глябальнага пацяпленьня людзей і дзяржаваў, але цаны для роднай зямлі няма й быць ня можа. На новай зямлі новае Тувалу не збудуеш. Астраўляне рыхтуюцца да расьсеяньня, да Невядомага, да часу "Ч", калі жыцьцё іх пачнецца наноў.

**Сяргей Радштэйн**

in memoriam

# Джордж Гарысан



Неяк у школе, калі нас паглынуў гітарны бум, мы, ужо дзевяцікласьнікі, — дарослыя, лічы, хлопцы — раптам пачалі гуляць у "Бітлз". Ролі ўдзельнікаў квартэту разьмеркаваліся хутка, толькі вось з выканаўцам ролі Джорджа Гарысана ўзьніклі праблемы. Ён заўсёды ўяўляўся нам найбольш загадкавым музыкам групы. На выгляд стрыманы, быццам паглыблены ў сябе (на што, безумоўна, уплывала ягонае захапленьне ўсходнімі культамі), Гарысан і ў музыцы быў найменшым сярод "Бітлз" бунтаром, экспэрымэнтатарам і пачаў актыўна пісаць адно пасьля таго, як квартэт разваліўся на чатыры асобныя творчыя адзінкі. Пасьля сьмерці Ленана тэарэтычна яшчэ можна было ўявіць канцэрт трыё "Бітлз". Пасьля таго як аблокі, пра якія сьпяваў Джордж Гарысан, прынялі яго самога, "Бітлз" канчаткова робіцца вялікім, недасяжным і галоўным мітам гісторыі року. Тады, у школьныя гады, стварыць уласны ансамбль мы так і ня здолелі. Проста сярод нас не знайшлося нікога, хто б разгадаў душу Джорджа Гарысана і адважыўся выконваць ягоную ролю.

**Зьміцер Падбярэскі**
**Паводле радыё "Свабода"**

## Рэкордная папулярнасьць Пуціна

**Расейскі прэзыдэнт сымпатычны 80% удзельнікам лістападаўскага апытаньня расейскай сацыялягічнай службы *ВЦИОМ*** (у кастрычніку такіх было 75%). Колькасьць незадаволеных дзейнасьцю прэзыдэнта зьменшылася за месяц з 19 да 18%.

## Ускосныя доказы прычынаў гібелі "Курску"

**Група адміралаў і афіцэраў Паўночнага флёту прыцягнутая да дысцыплінарнай адказнасьці.** Па словах галаўкама ВМФ Расеі Ўладзімера Кураедава, "камандуючы Паўночным флётам адмірал Вячаслаў Папоў і начальнік штабу Паўночнага флёту віцэ-адмірал Міхаіл Мацак пераведзеныя на ніжэйшыя пасады".

Мусіць, падводны човен "Курск" быў усё ж падбіты расейскай тарпэдай.

## Скарачэньне ўнутраных войскаў Расеі

**Колькасьць унутраных войскаў МУС Расеі будзе скарачацца.** Пра гэта заявіў міністар унутраных спраў гэтай краіны Барыс Грызлоў.

## Чачэнцы працягваюць змаганьне

**У Джахар-Кале снайпэр застрэліў афіцэра ФСБ, які курыраваў сельскую гаспадарку Чачэніі.** Ва Ўрус-Мартане жанчына-камікадзэ, якая начапіла выбухоўку на сябе, зьдзейсьніла замах на ваеннага камэнданта раёну Гейдара Гаджыева. Ён і двое байцоў камэндацкай роты былі цяжка параненыя, адзін салдат загінуў. Жанчына была ўдавой аднаго з загінулых партызанаў.

## Мароз-ваявода

**30 лістапада ў Маскве ад пераахаладжэньня загінулі 30 чалавек, яшчэ 41 з гэтай прычыны быў шпіталізаваны.** За восень у Маскве ўжо 161 чалавек стаў ахвярай холаду. А зіма ўсё й не пачыналася.

## Шахцёры мерзнуць

**У 6 раёнах Сахаліну з-за дрэннага стану цеплясетак і кацельняў без ацяпленьня засталіся 147 шматкватэрных дамоў** — каля трох тысяч чалавек. Асабліва цяжкая сытуацыя ў Холмску і шахцёрскім Горназаводзку, дзе жыве пара сотняў беларусаў.

## Алмазы "ўлыбнуліся" Маскве

**Прэзыдэнт Якуціі Міхаіл Нікалаеў напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў у рэспубліцы перадаў рэспубліканскі пакет акцыяў алмазнага холдынгу "Алрос" фірме "Сахаінвэст"** — адкрытаму акцыянэрнаму таварыству зь некалькімі тысячамі ўдзельнікаў. На думку камэнтатараў, Нікалаеў спрабуе гэткім чынам перашкодзіць Маскве, якая імкнецца скінуць яго, каб перахапіць кантроль над якуцкай доляй у холдынгу.

## Бацька лата ўзначаліў правых

**Прэзыдэнт Банку Латвіі Эйнарс Рэпшэ падаў у адстаўку і абвясьціў, што стварае лібэральную партыю "Новы час".** Ягоная мэта — забясьпечыць правым сілам перамогу на будучых парлямэнцкіх выбарах. Рэпшэ — бацька латвійскай фінансавай рэформы і лата — адной з самых стабільных валютаў Усходняй Эўропы.

## 5 год бяз атамнай зброі

**5 гадоў таму Беларусь пазбылася сваёй ядравае зброі.** Ціснула Масква, а Амэрыка абяцала за добраахвотнае разьбраеньне эканамічную дапамогу, большую нават, чым Украіне ці Казахстану. Але ўрэшце дастатковай матэрыяльнай кампэнсацыі ні ад Расеі, ні ад ЗША мы не атрымалі, бо так і ня зьнішчылі стартавых пляцовак для ракетаў.

Ці варта было аддаваць ядравую зброю? Яе наяўнасьць спрыяе сталеньню нацыі, змушае яе да адказнасьці. Гэта засьцярога ад бананавасьці лацінаамэрыканскіх рэжымаў. Іншая справа, што ў тых умовах мы не змаглі б дастойна распараджацца ядравай зброяй, бо ня мелі ні тэхнічных магчымасьцяў, ні волі да валоданьня гэткай зброяй. А атамную бомбу трэба моцна трымаць цьвёрдымі рукамі.

**С.Р.**

## Рэфэрэндум аб далучэньні

**Прэм'ер-міністар Латвіі Андрыс Бэрзыньш на гэтым тыдні прапанаваў аднача́совa правесьці ва ўсіх трох балтыйскіх краінах рэфэрэндум наконт уступленьня ў Эўразьвяз.** Рэфэрэндумы маглі б адбыцца 23 жніўня 2003 г., у гадавіну пакту Молатава-Рыбэнтропа. Суседзі пакуль маўчаць. Найбольшыя спрэчкі выклікае дата.

## Польшча ўвядзе візы няхутка

**Польшча афіцыйна прызнала, што насуперак папярэднім абяцаньням не ўвядзе візаў для беларусаў і расейцаў ні сёлета, ні налета.** Няма грошай! Візы для беларусаў і расейцаў будуць уведзеныя толькі ў 2003 г., а для ўкраінцаў — у 2004 г., адначасова з далучэньнем Польшчы да Эўразьвязу.

## Аэрапорт у Малашэвічах

**Новы сучасны аэрапорт паўстане на месцы былога вайсковага аэрапорту краінаў Варшаўскай дамовы, што месьціцца ў Малашэвічах ля Белай-Падляскай, за 30 км ад польска-беларускай мяжы.** Будуе яго турэцкая фірма "Эпіт". Мяркуецца, што будоўля будзе каштаваць каля 2,5 млрд. даляраў, а новы аэравакзал будзе памерамі не раўнуючы як Франкфурцкі ў Нямеччыне. Акрамя аэрапорту, на тэрыторыі больш за тысячу гэктараў паўстануць гандлёвыя ды забаўляльныя комплексы (у тым ліку аквапарк). Пакуль цяжка ацаніць патрэбу ў гэтым гіганцкім праекце і ягоную рэалістычнасьць.

## Ва Ўкраіне паўстала партыя ўлады

**Прэм'ер Украіны і лідэр Саюзу прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Анатоль Кінах паведаміў, што ягоная партыя ўвайшла ў выбарчы блёк "За адзіную Ўкраіну"**, які ўжо зьяднаў Народна-дэмакратычную і Аграрную партыі, Партыю рэгіёнаў і "Працоўную Ўкраіну". Уступленьне прэм'ера ў гэтую кааліцыю, якой кіруе шэф Адміністрацыі прэзыдэнта Ўладзімер Літвін, азначае, што блёк "За адзіную Ўкраіну" ператвараецца ў "партыю ўлады".

## Дошка Багушэвічу ў Савічунах

**У Савічунах, што пад Вільняй, на Доме культуры ўсталявалі мармуровую дошку з барэльефам Францішка Багушэвіча і надпісам па-беларуску, польску і літоўску: "Францішак Багушэвіч, паэт, удзельнік паўстаньня 1863 г.".** Зрабіў яе мастак Эдвард Падбярэскі. Акцыю ўшанаваньня зладзілі Згуртаваньне беларускіх грамадзкіх суполак у Вільні, беларуская амбасада ў Літве, мясцовыя ўлады. На імпрэзе прысутнічалі настаўнікі й вучні Беларускай школы імя Скарыны ў Вільні. У Савічунах імем Багушэвіча названая і вуліца.

## "Марш за капіталізм" у Вільні

**Пазаўчора ў Вільні адбыўся "Марш за капіталізм", які ў той самы дзень прайшоў больш чым у ста гарадох сьвету, у тым ліку Нью-Ёрку, Лёндане, Маскве й Ганконгу.** Лібэральная моладзь сабралася на Лукішках, адкуль рушыла па праспэкце Гедыміна ў бок Катэдральнага пляцу. Па дарозе дэманстранты сустрэлі пікет панкаў, якія трымалі ў руках плякаты зь лёзунгамі: "Капіталізм=фашызм".

## Гор жыве ў сваё задавальненьне

**Былы віцэ-прэзыдэнт ЗША Альбэрт Гор, які нядаўна вярнуўся зь Нігерыі, дзе знаходзіўся з прыватным візытам, заявіў, што** цяпер амаль не займаецца палітыкай, а аддаў сябе рэстараннаму бізнэсу ў штаце Тэнэсы: "Гэта досыць танны рэстаран, і мы самі ім кіруем".

## Італьянскі пасол навярнуўся ў іслам

**Амбасадар Італіі ў Саудаўскай Арабіі Тарквата Кардылі прыняў іслам.** Зрабіў гэта дыплямат у дзень свайго 59-годзьдзя напярэдадні Рамадану.

**Мікола Бугай паводле радыё "Балтыйскія хвалі", радыё "Свабода", радыё "Рацыя" і Інтэрнэту**

# Вёска праведнікаў

**25 лістапада прадстаўнікі беларускай і жыдоўскай грамадзкасьці ўшанавалі памяць жыхароў вёскі Парэчча, якія выратавалі ад гітлераўскага генацыду 40 габрэйскіх дзяцей. Гэтая гісторыя згадваецца ў кнізе Леаніда Сьмілавіцкага "Катастрофа габрэяў у Беларусі. 1941—1944", аднак ізраільскі гісторык беларускага паходжаньня ня ведаў усіх яе дэталяў. Ён піша: "40 жыдоў здолелі дабрацца да атраду імя Кутузава. Іх прынялі да сябе жыхары вёсак Парэчча і Сьвятое Рагачоўскага раёну. Мішу Пекара — Матрона Міхальчык, Сеню Глайхенгаўза ўзялі Ганна і Міхаіл Хурсы, Сіму Ставіцкую — Аляксей і Агрыпіна Шашкі". Насамрэч вёска Парэчча месьціцца не ў Рагачоўскім, а ў Пухавіцкім раёне, а Сьвятое — гэта засьценак з шасьці хацінаў за тры кілямэтры ад Парэчча. Згаданыя ж 40 габрэяў былі дзецьмі ад 7 да 15 гадоў.**

Гісторыя пачалася з таго, што парэцкія сяляне выратавалі Фрыду Рэйзман (Лосік). Улетку 1943 г. Фрыда, васьмігадовая дзяўчынка, разам з маці чакала сьмерці за калючым дротам менскага гета. Ейны брат Лазар Лосік тым часам ваяваў у партызанскім аддзеле імя Кутузава, які кватараваў недалёка ад Парэчча. Атрад гэты першапачаткова быў габрэйскім — яго заснавалі ў красавіку 1942 г. 13 уцекачоў зь менскага гета на чале з Ізраілем Лапідусам. Пазьней ён разросься, да яго далучыліся беларусы, армяне, цыганы і нават адзін немец — Вілі Шульц, капітан вэрмахту. Ён выратаваў зь менскага гета 25 габрэяў, у тым ліку сваю каханую Ільзу Штайн, і быў у аддзеле адным з найлепшых падрыўнікоў. Па словах Фрыды Рэйзман, пасьля вайны ён ажаніўся зь беларускай дзяўчынай і задамавіўся ў вёсцы Амельна недалёка ад Парэчча.

Партызан Лазар Лосік таксама быў падрыўніком і шмат кантактаваў зь сялянамі. Аднойчы ён пазнаёміўся з рудавалосым вяскоўцам з Вузьлянаў, які часта езьдзіў на фурманцы ў Менск. Гэты дзядзька меў дазвол заяжджаць у гета і часам вяртаўся дадому зь небясьпечнымі пасажырамі пад саломай. Вывезеных з гета ён перапраўляў да партызанаў. Рудавалосы згадзіўся вывезьці зь Менску Фрыду і ейную маці, але забраць абедзьвюх адразу не атрымалася. Дзяўчынка пралезла пад калючым дротам, а кабета ня здолела. У той дзень на калёсах збаўленьня выехала Фрыда і хлопчык гадоў чатырнаццаці — Міша Шнэйдар (цяпер ака ён жыве ў ЗША). Як толькі падвода выбралася зь Менску, згадвае Фрыда, у полі пачалася страляніна. Мужык схаваў дзяцей у стог, дзе яны праседзелі да вечара. Потым іх пераправілі ў Вузьляны, а адтуль праз некалькі дзён — у Сьвятое. Фрыда знайшла прытулак у сьціплай кабеты, якую звалі Пелагея Шашок.

Пры канцы кастрычніка 1943 г. нацысты вырашылі ліквідаваць апошніх габрэяў Менску. Рудавалосы вясковец пачаў езьдзіць у Менск амаль кожны дзень. Нарэшце ён вывез да партызанаў і Фрыдзіну маці Дору.

А потым у Парэччы зьявілася 40 габрэйскіх дзяцей. Каб пазьбегнуць зьнішчэньня, яны глыбокай ноччу прапаўзьлі пад калючым дротам гета і кінуліся бегчы да чыгуначнай станцыі. Тры дні хаваліся яны там у каналізацыйных трубах, пакуль адзін зь іх, Ёсаф Левін (жыве ў ЗША), не расказаў, што ведае вёску, дзе дапамагаюць габрэям, і можа правесьці ўсіх туды. Дзяцей у Парэччы разабралі па хатах.

Жыхары вёскі гэтак дружна ратавалі жыдоў, бо гэтаму вельмі спрыяў парэцкі поп Якуб Слабуха.

Фрыда Рэйзман з захапленьнем распавядае пра Парэчча: "У вёсцы было толькі два прозьвішчы — Хурс і Шашок. Усе гэтыя людзі адрозьніваліся надзвычайнай дабрынёй. Калі б нехта паведаміў нямецкім жаўнерам, што жыхары хаваюць габрэйскіх дзяцей, усіх адразу б забілі — і нас, і нашых ратаўнікоў. У вёсцы пра нас клапаціліся, добра кармілі, апраналі, лячылі. А ў дні аблаваў і праверак хавалі на навакольных балотах, куды немцы ня соваліся".

3 ліпеня 1944 г. у Парэчча ўступілі савецкія танкі. 5 ліпеня Фрыда з маці былі ўжо ў Менску: яны сьпяшаліся адшукаць сьляды Фрыдзінага брата Мішы, які, відаць, загінуў 29 студзеня 1943 г. у турме на Валадарцы. Усе, хто трапіў у той дзень у аблаву, загінулі. Фрыда з маці задамавіліся ў невялічкай кватэрцы, дзе неўзабаве знайшлі прытулак многія з тых дзяцей, што ратаваліся ў Парэччы. Хлапчукі 13—15 гадоў, якія засталіся без бацькоў, уладкоўваліся працаваць малярамі ды электрыкамі. Хто зь іх пайшоў добрай сьцежкай, хто — благой. Адзін — Лёнька Лупаты — нават зрабіўся крымінальным аўтарытэтам ва Ўладзівастоку.

Фрыда Рэйзман шкадуе пра адно: "Ніхто з уратаваных ня ведаў прозьвішча рудавалосага дзядзькі з Вузьлянаў, які выратаваў дзясяткі людзей, — кажа яна. — Мы ведаем толькі, што ён трапіў у аблаву і загінуў у той самы дзень, калі забілі Кубэ, і што ў яго была дачка Люда — прыкладна мая равесьніца".

14 верасьня 2000 г. з ініцыятывы Фрыды Рэйзман і габрэйскага дабрачыннага фонду "Хесэд-Рахамім" у вёсцы Парэчча паўстаў першы і пакуль адзіны ў Эўропе помнік Праведнікам народаў сьвету. На гэты момант жывымі застаюцца шэсьць сьведкаў тых дзён: пяцёра ўратаваных дзяцей і адна жыхарка вёскі. Усе яны прысутнічалі на цырымоніі адкрыцьця помніка. Сама Фрыда Рэйзман цяпер узначальвае дабрачынную арганізацыю былых вязьняў гета "Гілф" ("Дапамога").

**Юлія Андрэева**

# Ружанскі Галакост

**Завяршаючы невялікі трыптых пра Ружаны, я папрасіў расказаць пра ружанскі Галакост аднаго са старажылаў, майго сябра Аляксандра Пракапеню. У 1939 г. яму было 14 гадоў, ён добра ўсё памятае. Вось што ён расказаў.**

— У Ружанах пры паляках было пяць тысяч жыхароў, і ажно чатыры тысячы зь іх — габрэі. Ружанцы-беларусы жылі на ўскраінах, на "канцах", мелі зямлю, трымалі коні, каровы, гадавалі сьвіньні. А габрэі займаліся ў асноўным гандлем і жылі ў цэнтры, у камяніцах. Яны самі выраблялі тавары на продаж, шылі адзежу, абутак. Прывозілі тавар і з Польшчы. У цэнтры, дзе цяпер сквэр, былі гандлёвыя рады, больш за 60 лавак і лавачак. Як заможны габрэй, то і лаўка вялікая, у бяднейшых — як сёньняшнія шапікі. Яшчэ было некалькі гарбарняў, габрэі езьдзілі па вёсках, куплялі ў гаспадароў скуры, выраблялі. З інтэлігенцыі то былі дактары ў больніцы, рабіны, супрацоўнікі ў аптэках, настаўнікі іхныя. Пры сынагогах (а іх было каля дзесяці) працавалі габрэйскія школкі. Праўда, габрэйскія дзеці вучыліся і ў польскай школе, разам зь беларусамі і палякамі.

Жылі габрэі таксама ў Паўлаве, гэта кілямэтра з паўтара адсюль, і ў Канстанцінове. Некалі іх продкі купілі зямлю ў Сапегаў і пасяліліся калёніяй, каб жыць сялянскім жыцьцём. Але ня надта ў іх атрымлівалася, бо заўсёды наймалі мужыкоў араць і сеяць, нават я з мамаю хадзіў да іх у заробкі, бульбу выбіралі. У Паўлаве іх жыло чалавек 500. Вялікія сем'і... двароў са 100. А ў Канстанцінове меней — чалавек 200.

Кожны панядзелак у Ружанах быў кірмаш. У нядзелю ці на дзяржаўнае сьвята гандляваць забаранялася. Але ж на сьвяты народу ў Ружанах зьбіралася — пальца не ўваткнуць. Самы заробак для гандляра. Дык патаемна гандлявалі. Падыдзе чалавек да хаты гандляра, пастукае, той паглядзіць праз шчыліну ці ў акенца — усё ў парадку, можна ўваходзіць. Памятаю, купляў я новую шапку, злоты і дзевяноста грошаў каштавала. Памераў — вялікая, на вушы ўпала. Габрэй кажа: "Нічога, хлопец, пайшлі са мною". Завёў ён мяне некуды, там машынка стаіць, тут жа распароў, ушыў: "Насі, на здароўе!"

Наагул, пры Польшчы жылося ім няблага, ніхто не прыцясьняў. Але гэта пры Пілсудзкім, бо ў таго жонка была габрэйка. А як стаў Рыдз-Сьміглы, то і ў газэтах пачалі іх выкрываць, і ў нас, у Ружанах, на прылаўках зьявіліся надпісы і нават улёткі: *Nie kupuj u żyda!*

Як немцы напалі на Польшчу, павалілі ў Ружаны бежанцы-габрэі зь Беластоку, з Варшавы, зь іншых гарадоў. У асноўным моладзь, чыесьці сваякі ці знаёмыя. Тысячы паўтары прыбыло. А праз тры дні ў Ружаны прыйшлі, як мы кажам, першыя саветы. Лаўкі іхныя пазачынялі. Але яны тавар па хатах пахавалі і ўсё роўна гандлявалі, падпольна, як сёньня кажуць, "па бартэры", — абменьвалі тавар на харчаваньне. Моладзь габрэйская была за савецкую ўласьць. Абіралі мы дэлегата на Ўсебеларускі сход, калі далучаліся да БССР, то ўсю агітацыю яны праводзілі. Чалавек 20 моладзі езьдзілі па вёсках навакольных на роварах, раздавалі і расклейвалі ўлёткі і ўсё песьню сьпявалі: "Кіпучая, магучая, нікім не пабядзімая..." Ніхто іх асабліва не чапаў, быў нават судовы працэс над адным тутэйшым за слова "жыд". Але чалавек выратаваўся, бо змог даказаць, што ён паляк, а ў польскай мове няма слова "габрэй", толькі *żyd*. Працавалі яны пры першых саветах і ва ўстановах, і ў школе расейскай, і на торфапрадпрыемстве. Але праз паўтара году — ізноў вайна. Тут яны, вядома, трапілі ў пастку. Вайна пачалася раніцай, а пасьля абеду немцы былі ўжо ў Ружанах.

Немцы загадалі габрэям насіць на правым рукаве белую павязку з надпісам *jude*. Сынагогі разбурылі, каторыя драўляныя. Гета зрабілі ўвесну 42-га. Бяз дроту, без вартавых. Проста пазначылі, якія вуліцы, якія дамы ў гета. І ні кроку за межы. Хадзілі, праўда, рызыканты, усякае было. Ганялі іх на работы цяжкія, на дарогі, на траншэі, рамонты, будоўлі. У гета сагналі і габрэяў-каляністаў, з Паўлава і Канстанцінова. Цывільным начальнікам пры немцах быў войт Рапацкі, у 44-м уцёк разам зь імі. Былі яшчэ солтысы, на кожнай вуліцы — свой.

Як габрэі выжывалі, цяжка і ўявіць. Столькі народу на невялікай плошчы!.. Было ў іх даваеннае золата, былі нейкія тавары, каштоўнасьці, працавалі па-ранейшаму рамесьнікі. Я сам насіў у гета гадзіньнік рамантаваць да майстра — малады такі, харошы быў хлопец з Варшавы, то ён зь мяне шклянку фасолі ўзяў. Была камэнданцкая гадзіна: пасьля 21.00 на вуліцу носа не высоўвай, маглі застрэліць, а "гумаў" па срацы то напэўна заробіш. Немец, армскамісар, неяк на падпітку добрым ад каханкі вяртаўся ўначы. Вартавы на яго: *Halt!* А той — нуль увагі: начальнік жа. То вартавы яго і застрэліў.

Увосень 43-га немцы абкружылі Ружаны войскам, усюды кулямёты, пачалі габрэяў з гета выганяць і калёнаю, пешкі на Ваўкавыск, на станцыю. Старых, хворых, нямоглых пабілі адразу. Астатнія жыцьцё скончылі хто ў Трэблінцы, хто ў Асьвенцыме, хто яшчэ дзе. Да аднаго прыйшлі выганяць з хаты, а ён сядзіць у пограбе зь вінтоўкаю і патронаў паўсотні. Нават ня стрэліў ні разу, аддаў і вінтоўку, і патроны, і пайшоў пад аўтаматамі.

Пару дзясяткаў маладзейшых зьбеглі, хаваліся па лясах, па вёсках. Усіх знайшлі, вылавілі, пастралялі. Адзін забег да нас у Бярэзьніцу, а там гаспадар з сынам у гумне малоцяць. Ён і просіць схаваць, золата аддаў. Тыя паказваюць на салому — лезь, хавайся. Не пасьпеў, уварваліся немцы, вывелі за гумно і з аўтаматаў паклалі.


Майстэрня мастака Юрыя Малышэўскага ў Ружанах. Расказвае Аляксандар Пракапеня.

Выратаваліся з ружанскіх габрэяў чалавекі са тры-чатыры. Адзін, Савульскі Довыд, да вайны яшчэ заляцаўся да вясковай дзяўчыны. То яна яго неяк вывела з Ружанаў, а як усё сьціхла — перапраравіла да партызанаў, у Гута-Міхалінскую пушчу. Там ён і прабыў да вызваленьня рэзьнікам у партызанаў. Прыгоняць тыя зь вёсак скаціну — ён яе рэжа, разьдзяляе на мяса. Пры кухні, адным словам. Пасьля вайны ажаніўся зь мясцоваю дзяўчынай, але ня з тою, што яго выратавала. Дажыў да старасьці і памёр сваёй сьмерцю. Яшчэ ў Ружаны вярнуўся Рома Сланімчык. Быў шафёрам у начальства, то зьехаў у першы ж дзень вайны. Ну і Вэйвэль Кузьнец, бо ў 39-м завэрбаваўся на шахты расейскія. Пасьля вайны прыехаў з адным мэдалём і адным вокам. А гета і наагул увесь цэнтар Ружанаў немцы выпалілі пры адступленьні. Хадзіў немец і падпальваў дом за домам з ракетніцы. Адна кабета тутэйшая, не габрэйка, выбегла да яго з малаком, яйкамі, на калені ўпала, прасіла хату не паліць. Немец малака папіў, яйкі забраў і прайшоў хату, не запаліў.


Былая Ружанская сынагога. Будынак 2-й паловы XIX ст.

Вось і ўся гісторыя Ружанскага габрэйства. Зараз няма ніводнага габрэя. Уся памяць пра былое — каменны будынак сынагогі ды старыя напаўразбураныя могілкі — пабітыя, урослыя ў зямлю, перакуленыя надмагільлі, хмызьнякі і пні, малады сасоньнік, ямы.

**Уладзімер Ратней**
**Фота з архіваў Юр'я Малышэўскага і аўтара**


Вучні і настаўнікі габрэйскай школы. 1930-я гады.


Разбураныя надмагільлі на ружанскіх могілках. Восень 2001 г.


Адна з ружанскіх сынагогаў. Справа — палац Сапегаў. 1930 г.

Васіль Аўраменка

# Здароўе і радасьці жыцьця

На такое простае пытаньне — “Дзеля чаго жыве чалавек?”— існуе шмат адказаў. Філёзаф распавядзе пра пошук ісьціны, біёляг — пра рэалізацыю генэтычнай праграмы, сьвятар — пра выкупленьне грахоў, а лекар... пра здароўе. Бо здароўе — гэта калі ня мэта, дык, прынамсі, галоўная ўмова выкананьня жыцьцёвых праграмаў. Безь яго губляюць сэнс усе іншыя мэты і задачы. Але ж лекары сьцьвярджаюць, што здароўю шкодзяць вельмі многія рэчы, якія прыносяць задавальненьне, — алькаголь, паленьне, наркотыкі і г.д. Як тут быць? Як, “узяўшы ад жыцьця ўсё”, застацца здаровым?

Па-першае, бяруць ад жыцьця “ўсё” вельмі нямногія, абраныя лёсам людзі, бо, акрамя фізіялягічных задавальненьняў, у жыцьці ёсьць іншыя, ня менш моцныя. Напрыклад — радасьць бацькоўства, задавальненьне ад уласнай сілы і ўмельства, ап’яненьне ўладай, славай ці, нарэшце, творчасьцю. Падругое, прыемнасьці жыцьця — і “нізкія”, і “высокія” — ёсьць умовай псыхалягічнага камфорту і, бадай, асноўным стымулам чалавечага існаваньня. “Кайф” ад смачнай ежы, каханьня або сузіраньня прыроды — не апошнія фактары здароўя, асабліва для тых, хто ня мае далекасяжных жыцьцёвых мэтаў.

Аднак мала хто стане даводзіць карыснасьць такой распаўсюджанай чалавечай “радасьці”, як спажываньне тытуню. Хіба што асобныя дасьледчыкі, якія кажуць, што сярод курцоў радзей сустракаецца паркінсанізм — хвароба старых людзей, сымптомамі якой ёсьць трымценьне рук і замаруджанасьць рухаў. Але пералік захворваньняў, якія выклікае або правакуе паленьне, значна большы — язва страўніка, хваробы горла і лёгкіх (у тым ліку рак), атэрасклероз сасудаў ног (перамежная кульгавасьць), гіпэртанія, інфаркт, інсульт...

Вельмі дрэнна ўплывае тытунь на арганізм маладых жанчынаў. Ён ня толькі выклікае заўчаснае старэньне скуры твару, але й зьмяняе гарманальны фон, шкодзіць нармальнаму разьвіцьцю яйцаклеткі й здароўю будучых дзяцей. Прычым адмоўнае ўзьдзеяньне нікатыну на яйцаклетку захоўваецца яшчэ 2—3 гады пасьля адмовы ад тытуню.

Крыху лягчэй мужчынам — спэрматазоіды аднаўляюцца хутчэй, чым яйцаклеткі, і ўжо праз 5—6 месяцаў устрыманьня ад цыгарэтаў можна паспрабаваць стаць бацькам здаровага дзіцяці.

Апалягеты тытуню па-рознаму апраўдваюць сваю звычку. Адны кажуць пра імкненьне да раньняга сталеньня — “закурыў як сапраўдны мужчына”. Але гэта выйсьце для тых, хто ня мае больш дзейсных спосабаў самасьцьвярджэньня. Іншыя даводзяць, што паленьне — эфэктыўны сродак усталяваньня кантактаў: пачаставаў цыгарэткай, пагаварыў, пазнаёміўся ці атрымаў у лыч (выдаткі вулічнай “камунікацыі”). Яшчэ нехта называе паленьне неўсьвядомленым рытуалам “вогнепаклонства”: чалавек, маўляў, розьніцца ад жывёлы тым, што валодае полымем, і кожны акт запальваньня і згасаньня цыгарэты сымбалізуе панаваньне над агнём. Бывае і наадварот: недапалак робіцца прычынай пажару і сьмерці свайго “валадара”.

Аматараў наступнай “радасьці” жыцьця — наркотыкаў — прываблівае, бадай, адно — “кайф”. Хоць “тэарэтыкі” могуць паразважаць і пра творчасьць пад узьдзеяньнем *LSD*, і пра “падарожжы ў іншасьветы”, і наагул пра тое, што наркотыкам ёсьць усё: без паветра “ломка” пачынаецца праз тры-чатыры хвіліны, без вады — празь сем-восем дзён і г.д. Але ж вада, ежа й паветра даюць жыцьцё, а з наркотыкамі добра калі пражывеш восем-дзесяць год. І ня трэба цешыцца ілюзіямі, што “ў жыцьці можна паспытаць усё”: з тых, хто хоць аднойчы пакаштаваў “бяскрыўдную” цыгарэтку з марыхуанай, 10% трапляюць у нарказалежнасьць і скончаюць ін’екцыйнымі прэпаратамі. Для параўнаньня — з тых, хто паспытаў алькаголь, сьпіваецца каля 1% (праўда, гэта амэрыканская статыстыка). Што да модных “экстазі” ды іншых галюцынагенаў (дарэчы, найбольш дарагіх наркотыкаў), дык разбурэньне цэнтральнай нэрвовай сыстэмы пад іх узьдзеяньнем можна параўнаць хіба што з паэтапнай маруднай лабатаміяй (ампутацыяй лобных доляў мозгу). А тым, хто хоча скончыць жыцьцё не праз семдзевяць год, як аматары опію і гераіну, а значна раней, можна параіць клей “Момант” ці іншыя хімічныя “інгалятары”. Тут бывае дастаткова адзін-два разы перабольшыць “дозу” — і ныркі поўнасьцю “выключаюцца”. Ніякая рэанімацыя ўжо не дапаможа: сьмерць настае ад урэміі — атручаньня арганізму мачавінай. У некаторых выпадках таксыкаманам “шанцуе”: яны выжываюць, але застаюцца інвалідамі. Вось такія “радасьці” нясуць наркотыкі.



Самыя даўнія і найбольш заблытаныя адносіны ў чалавека з алькаголем. Калі на адны вагі пакласьці “радасьці”, якія ён нясе людзям, а на другія — гора, невядома яшчэ, што пераважыць. Для сям’і алькаголіка выпіўка — абсалютнае зло, для здаровага дзецюка, які толькі зрэдку выпівае, — амаль сьвята, для мусульманіна ці перакананага цьвярозьніка — наагул не праблема. Падыход тут мусіць быць вельмі індывідуальным. Апошнім часам шмат гавораць аб карысьці алькагольных напояў. Большасьць дасьледчыкаў схіляецца да таго, што невялікія дозы маюць ангіяпратэктарныя ўласьцівасьці, г.зн. тармозяць разьвіцьцё атэрасклерозу сасудаў. Французкія мэдыкі лічаць, што 200 грамаў сухога вінаграднага віна ў дзень зьніжаюць верагоднасьць інфаркту або інсульту (французы і сапраўды менш за іншых пакутуюць ад гэтых хваробаў). Праўда, многія дасьледчыкі кажуць, што дапамагае тут ня сам сьпірт, а рэчывы, якія пераходзяць у віно зь вінаграднай мякіны і надаюць яму чырвоны колер. Нямецкія ды амэрыканскія вучоныя дапускаюць, што ангіяпратэктарны эфэкт маюць і моцныя напоі — віскі, гарэлка, брэндзі, калі іх ужываць па 50 мл у дзень (1 ст. лыжка — 15 мл). Але ці бачылі вы, каб расеец піў гарэлку лыжкамі? Чаркамі, пляшкамі, літрамі — але ня лыжкамі. Можа, які пэдантычны немец і вытрывае такое катаваньне: шнапс па адной сталовай лыжцы 3 разы на дзень. Большыя дозы, на думку вучоных, ужо таксычныя для пячонкі, нэрвовай сыстэмы і сэрца. Таму, калі ўлічваць расейскія традыцыі піцьця, што ўкаранілі і ў Беларусі, і сёньняшнюю ступень усенароднай алькагалізацыі, лепш зусім адмовіцца ад сяброўства з чаркай, чым спрабаваць паціху зьніжаць дозу. Тым больш што алькаголь у малых дозах карысны толькі для здаровых людзей, тады як добрая палова беларусаў ня можа пахваліцца выключным здароўем. Абсалютна супрацьпаказана піць хворым на гепатыт, панкрэатыт, эпілепсію, полінэўрыты, некаторыя хваробы ЦНС (асабліва з пашкоджаньнем мозачкаў), а таксама пасьля цяжкіх чэрапна-мазгавых траўмаў. Небясьпечна ўжываць сьпіртное і тым, у каго хоць бы адзін з бацькоў хварэў на алькагалізім, бо схільнасьць да алькагалізму можа перадавацца ў спадчыну. Але ня толькі алькаголікі, фізычна залежныя ад выпіўкі, але і эпізадычныя віпівохі, што “газуюць” рэдка, але “метка”, шкодзяць сабе й сваім родным. Вялікая праблема нашага грамадзтва — нараджэньне г.зв. “п’яных дзяцей”, зачатых бацькамі “пад чаркай”. У лепшым выпадку яны толькі ў дзяцінстве адстаюць ад аднагодкаў у разьвіцьці, у горшым — на ўсё жыцьцё застаюцца алігафрэнамі ці імбэцыламі. Іхная колькасьць павялічваецца прапарцыйна росту ўжываньня алькаголю на душу насельніцтва. А калі ўлічваць, што, па-першае, “злоўжываньне” ў нас адно з найвышэйшых у сьвеце; па-другое, у алькагалізаваных сем’ях дзяцей у дватры разы больш, чым у нармальных; па-трэцяе, самыя талковыя маладыя людзі эмігруюць зь Беларусі, дык праз дзесяць год дэбілізм тут зробіцца амаль нормай. Вельмі зьдзіўляе стаўленьне да праблемы дзяржавы, якая, трымаючы вельмі нізкія кошты на гарэлку й “чарніла”, штурхае сваіх грамадзянаў у п’яную бездань.

Адразу пасьля праблемы выпіўкі ідзе праблема “закускі”, то бок ежы. У кожнага народу, сям’і, нават у кожнага асобнага чалавека ёсьць свае харчовыя прыярытэты. Мяса маржа чамусьці спрадвеку любяць не індусы, а чукчы, фінікі — ня фіны, а арабы. Вось і беларусы нездарма спынілі свой выбар на бульбе са скваркай, бо гэтага тут больш чым дзе. Ежа мусіць адпавядаць нацыянальна-геаграфічным і кліматычным асаблівасьцям. Калі ўлетку мы можам налягаць на вэгетарыянскія харчы, дык узімку і сала не пашкодзіць. Па-другое, пажадана, каб ежа была разнастайнай — не суцэльная макарона з сардэлькай, а і розныя кашы, расьлінныя салаты, гарніры, марскія прадукты. З разнастайнай ежы арганізму лягчэй выбраць тое, што яму ў гэты момант патрэбна. Аднак ва ўсе сэзоны нам неабходная дастатковая колькасьць бялку, які ёсьць у мясе ці рыбе (норма — 100 г на дзень). Расьлінныя бялкі — бабы, соя, гарох — засвойваюцца горш, і трэба іх у разы два болей. Патрэбныя арганізму й вітаміны.

Асаблівасьці харчаваньня вызначаюцца полам і векам людзей. Напрыклад, большасьць дарослых людзей ня маюць фэрмэнту для засваеньня цэльнага малака, ім лепш ужываць кісламалочныя прадукты. Тым, каму за сорак, пажадана ўжываць менш жывёльнага тлушчу, які спрыяе разьвіцьцю атэрасклерозу, і аддаць перавагу алеям — соеваму, сланечнікаваму, рапсаваму, — якія станоўча ўплываюць на сасуды. Маладому арганізму для росту трэба больш бялкоў і вітамінаў. Спэцыі, вострыя прыправы ды моцныя напоі парушаюць гарманальны баланс, такі няўстойлівы ў гэтым веку. Жанчынам пажылым ня варта піць шмат кавы. Гэта паскарае астэапароз — паслабленьне касьцявой тканкі. І — супольнае для ўсіх: ежа павінна адпавядаць затрачанай энэргіі. Прагравіст мусіць есьці ня столькі, колькі грузчык, а выкладчык ня тое, што селянін. Увогуле, ёсьць шмат розных сыстэмаў харчаваньня, і калі аднаму дастаткова пад’есьці два разы на дзень, дык другому трэба чатыры-пяць разоў падысьці да лядоўні. Галоўнае, каб харч спажываўся з ахвотай і смакам, тады і карысьць ад яго будзе найбольшая.

Яшчэ адна радасьць, дзякуючы якой самое жыцьцё працягваецца — гэта каханьне і яго мэханічная частка — сэкс. Супраць гэтага задавальненьня выступаць бессэнсоўна, як і агітаваць за яго. Гэта, бадай, самая інтымная рэч, аб якой ня варта казаць з высокай трыбуны. Аб ёй лепш гаварыць ціха, употай, а яшчэ лепей — рабіць, бязь лішніх словаў і патэтыкі. І ўсё ж ёсьць адно пажаданьне і для гэтай радасьці: яна павінна быць узаемнай, каб не было з аднаго боку задавальненьне, а з другога — пакуты. Гэта перакрэсьлівае ўвесь сэнс каханьня, адмаўляе саму ягоную сутнасьць. У такім выпадку, нават, калі не адбудзецца заражэньня вірусам СНІДу або гепатыту С, перадасца “бацыла страху і антысэксуальнасьці”, якая таксама не прынясе карысьці нікому.

На гэтым, вядома, радасьці жыцьця не сканчаюцца, і сярод іншых сёньня вылучаюцца такія, як масавае захапленьне тэлевізіяй, кампутарамі, Інтэрнэтам. Некаторыя дасьледчыкі, напрыклад, параўноўваюць кампутарныя цацкі зь лёгкім наркотыкам і нават прапануюць іх як сродак лячэньня ад сапраўднай наркаманіі.

Здароўе і жыцьцёвыя радасьці — рэчы не заўсёды ўзаемавыключальныя. Трэба толькі знайсьці раўнавагу між імі. Прычым у кожнага яна будзе свая: адмовіўшыся ад адной “радасьці”, можна знайсьці сябе ў другой або трэцяй. Галоўнае — захаваць сваё здароўе вышэй “нулявой адзнакі”, каб было каму задаць вечнае пытаньне — “Дзеля чаго жыве чалавек?”. Раптам менавіта вы зробіце тое, што не ўдавалася пакуль нікому — адкажаце на яго раз і назаўсёды: “Чалавек жыве дзеля ...”.

## Навіны культуры

### З Парнасу ў Гарадок

**Пазаўчора ў Гарадку, што на Віцебшчыне, помнікам увекавечылі памяць кніжнага героя — палясоўшчыка з паэмы XIX ст. “Тарас на Парнасе”.** Упершыню гэты твор быў надрукаваны ў газэце “*Минский листок*” у 1889 г. Імя яе аўтара — Канстанціна Вераніцына — удалося высьветліць па сшытках Аляксандра Рыпінскага, у якіх побач зь перапісаным тэкстам паэмы значыцца прозьвішча Вераніцына, а таксама дата й месца напісаньня твору.

Помнік Тарасу ўяўляе сабой два валуны. На адным — шыльда з арнамэнтам і сьведчаньнем, што “выдатны твор беларускай літаратуры народная паэма “Тарас на Парнасе” напісаная ў 1855 г. К.Вераніцыным, ураджэнцам Гарадоччыны”, а таксама першымі радкамі паэмы. На другім камені (што ў рост чалавека) выбіты барэльеф: раскрытая кніга, зь якой выходзіць палясоўшчык Тарас у атачэньні парнаскіх багоў. Стварэньне помніка ініцыяваў прарэктар Віцебскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Анатоль Дарафееў, ураджэнец Гарадка. Аўтары кампазыцыі — выкладчыкі катэдры выяўленчага мастацтва ВДУ Іван Каладоўскі і Сяргей Сотнікаў.

У роднай вёсцы Вераніцына Астраўлянах усталяваная копія мэмарыяльнай дошкі.

**Крысьціна Пучынская**

### Інцыдэнт у парку Горкага

**У мінулую сераду гурт “Беларускі клімат” сьвяткаваў разам зь сябрамі з гурту “Драм-экстазі” свае народзіны.** Дзея адбывалася пад мостам у парку Горкага, суправаджалася гучным біцьцём у бубны, раскладаньнем вогнішча ды іншымі спэцэфэктамі і скончылася, як звычайна, зьяўленьнем міліцыі. Музыкі, згледзеўшы “газік”, зьніклі ў цемры. Міліцыянты, як звычайна, схапілі першага лепшага. Ёй аказалася ангельская грамадзянка. Давялося адпусьціць.

**Г.С.**

### Буйная выстава

**У менскім Палацы мастацтваў доўжыцца выстава “Панарама”, прысьвечаная зьезду Саюзу мастакоў.** Творы не аб’яднаныя адной канцэпцыяй, яны проста прэзэнтуюць сучаснае беларускае мастацтва: тут і пэйзажы, і партрэты, і графіка, і нацюрморты. Найбольш — вясковых пэйзажаў, твораў на гістарычную тэматыку і аголеных жанчынаў. Між іншым, ёсьць партрэт Яўгена Куліка, намаляваны Аляксеем Марачкіным. Слынны мастак трымае бел-чырвона-белы сьцяг.

Выстава працуе да 9 сьнежня. Цана квітка сымбалічная — 250 руб.

### Гномікі будуць танчыць

**У Менскім балеце ставяць “Беласьнежку і сем гномаў” на музыку польскага кампазытара Багдана Паўлоўскага.** Спэктакль рыхтуе малады харэограф Натальля Фурман, якая паставіла “Макбэта” на музыку Вячаслава Кузьняцова. А Кузьняцоў цяпер піша музыку да балету “Цэзар і Клеапатра”, які задумаў паставіць балетмайстар Валянцін Еліэар’еў.

**Э.Л.**

# Нашы старадрукі за акіянам

**Rare Polonica in The New York Public Library: Books of the 15th–18th Centures. Edited by Marianna Czapnik based on materials compiled by Robert H. Davis, Ir.**

Апошняя праца з сэрыі "Славянскія, балтыйскія і эўразіяцкія рэсурсы Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі" выйшла ў 2001 г. у выдавецтве Нормана Роса (*Norman Ross Publishing Inc.*). Добрую палову каталёгу "палёнікі" складаюць кнігі, надрукаваныя ў Вялікім Княстве Літоўскім, якія бывалі на Беларусі, а таксама зьмяшчаюць інфармацыю пра старажытную Беларусь.

Коратка спынімся на помніках нашай кніжнай культуры, якія "знайшліся" за акіянам. Сярод іх багата выданьняў, адціснутых непасрэдна ў друкарнях ВКЛ. Гэта 9 кніг ад віленскіх базыльянаў, 2 выданьні з францішканскай друкарні, 7 ад віленскіх піяраў і найбольш — 60 — з друкарні Віленскай акадэміі. Сярод старадрукаў адшукаўся рарытэтны экзэмпляр Берасьцейскай (Радзівілаўскай) Бібліі 1563 г. Ён зьберагаўся ў калекцыі вядомага бібліяфіла, графа Аўгуста Фрыдэрыка Сасэкса (1777—1843), сына караля Англіі Георга III. Ёсьць спадзяваньні, што ў гэтым асобніку захаваліся ўсе гравюры (у адзіным на ўсю Беларусь экзэмпляры палова аздобы страчаная). Дарэчы, істотным недахопам новага каталёгу зьяўляецца адсутнасьць апісаньня захаванасьці экзэмпляраў і стану пераплётаў, што для рэдкай кнігі вельмі істотна. Па дапісках чытачоў, па старых бібліятэчных штампах і эксьлібрысах былых уладальнікаў можна прасачыць лёс кнігі. Так, эксьлібрыс і пячатка на гданьскім 1644 г. выданьня панэгірыку Эбэргарда Васэнбэрга Яну Казіміру сьведчаць, што кніга трапіла ў Амэрыку зь бібліятэкі Канстанціна Тызэнгаўза ў Паставах. А кракаўскае выданьне 1677 г., мяркуючы па пячатцы, перахоўвалася ў бібліятэцы Міхала Клеафаса Агінскага ў Залесьсі. Разнастаіць калекцыю і кніга з эксьлібрысам вядомага зьбіральніка, падкаморага ВКЛ Станіслава Радзівіла (1722—1787).

Годна прадстаўленыя ў нью-ёрскай калекцыі й найменш вывучаныя цяпер бібліятэкі сьвятароў і манахаў. У каталёгу апісаныя кнігі з уладальніцкімі запісамі базыльяніна Эгнацыя Бараноўскага (XVIII ст.), кармэліта, прэора ў Лідзе Анёла Руткоўскага (XVIII ст.), дамініканіна Людвіка Грыневіча (XVIII ст.), езуітаў Аляксандра Яленскага (1662—1713), Захар'я Мадзалеўскага (1648—1710), Пятра Пузыны (1664—1717).

Асобныя экзэмпляры і цэлыя комплексы належаць да збораў беларускіх каталіцкіх манастыроў. Найцікавейшыя — кнігі бэрнардынаў са Слоніму. Усе чатыры маюць запіс ад рукі: *Conventus Slonimensis P[atrum] Bernardinorum.* Самая старая са слонімскіх кніг — кракаўскае выданьне 1665 г. "Пэгас Велікапольскі...", іншыя тры выдадзеныя ў ВКЛ і датуюцца XVIII ст. Гэта панэгірык беларускаму суфрагану Тамашу Эгнацыю Зянковічу (1755), панэгірык мсьціслаўскаму ваяводу Лявону Хлябовічу (1738) і жалоба дамініканаў з прычыны страты дабрадзеяў (на сьмерць Людвіка Пацея, 1771 г.).

Знайшліся ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы і кнігі зь Пінскага езуіцкага калегіюму (тры выданьні XVII і адно XVIII ст.), зь піярскай калегіі ў Лужках на Полаччыне, з магілёўскай рэзыдэнцыі езуітаў, а таксама са збораў віленскіх мінарытаў і дамініканаў.

На сканчэньне трэба сказаць аб адной неспадзяванцы — чатырох кнігах зь бібліятэкі прафэсара Санкт-Пецярбурскай духоўнай акадэміі Міхала Каяловіча. Гэта вельмі рэдкія польскамоўныя выданьні Кіева-Пячорскай лаўры XVII ст. На ўсіх ёсьць адзнака папярэдняга ўладальніка — ксяндза Тахона Трамбіцкага. Як трапілі гэтыя кнігі да Восіпа Каяловіча і ці ня зьвязаны нейкім чынам ксёндз Трамбіцкі зь бібліяфілам панам Трамбіцкім з-пад Слоніму, у бібліятэку якога трапіў кнігазбор прафэсара Баброўскага (у тым ліку Кіеўскі Псалтыр князя Вітаўта)?

Лягчэй адгадаць, як кнігі Каяловіча, што былі адпісаныя бібліятэцы Санкт-Пецярбурскай духоўнай акадэміі, трапілі ў Амэрыку. Па рэвалюцыі амэрыканскія антыквары плённа працавалі ў багатай на непатрэбныя новай уладзе каштоўнасьці расейскай сталіцы.

**Мікола Нікалаеў, бібліятэкар, Санкт-Пецярбург**

**Публічная бібліятэка Нью-Ёрку (*The New York Public Library*) заснаваная ў траўні 1895 г. шляхам зьліцьця двух прыватных кнігазбораў – Якаба Астора і Джэймса Ленакса. Цяпер гэта адзін з найбагацейшых кнігазбораў ЗША з фондам, большым за 41 мільён адзінак, зь якіх 14 мільёнаў складаюць кнігі.**

# Сьцежкі з хэпі-эндам

**Янка Брыль. Сьцежкі, дарогі, прастор: Лірычныя замалёўкі. — Менск: Юнацтва, 2001.**

Заўсёды з асалодаю чытаюцца мэмуары. Сама сытуацыя аўтара, па вызначэньні жанру, абумоўлівае аптымістычны фінал. Дажыў жа чалавек!.. Мэмуары супакойваюць сваім канцом.

Новая кніга Брыля — не мэмуары, а замалёўкі-трэніроўкі, але яны таксама нібы падводзяць рысу доўгага шчасьлівага існаваньня на ніве слова, бо пад адной вокладкай сабраныя запісы за доўгія гады — усё тое зь пісьменьніцкіх дзёньнікаў, што не знайшло выкарыстаньня ў "вялікіх творах" ці "Вячэрнім". Першая лірычная імпрэсія датаваная 1951 г. (яшчэ жывыя Колас і Сталін), апошняя — 1994-м (першыя прэзыдэнцкія выбары). Ні пра Коласа, ні пра Сталіна, ні пра выбары Брыль ня піша. Згадвае сюд-туд адным словам, намёкам.

У замалёўках бачыш цэлага пісьменьніка — і таго, які старанна працаваў з кожным словам у маладосьці, і эканомнага ў сталым веку. Чытаеш — і сустракаеш новыя, раней ня ведамыя словы. Не, ня тыя выкруты, на якіх спатыкаешся, бывае, у загрувашчаных пэрыядах маладых пурыстаў, а ўсё такія натуральныя, быццам грыбы ў кашы, і для тваёй асабістай мовы: мэндлі ("першыя мэндлі", "жытнія мэндлі"), занароўлена ("хлопец апраўдваўся занароўлена"). І не разумееш да канца, што яны азначаюць, і здагадваешся з кантэксту, а спытацца няма ў каго, дый носіш іх каля сябе за пазухай, нібы крамяны баравік, знойдзены пры дарозе. Ня ведаеш, ці скарыстаеш, а выкінуць усё адно шкада.

Са словам "задзёрысты" ("з блазенскім, задзёрыстым сьвістам") іншая гісторыя. Некалі ў адным з апавяданьняў у "Arche" сустрэў выраз "зь юначым задзёрам". Думаў — прыдумы. І вось — у Брыля той самы корань.

І памылкі па новай брылёўскай кнізе рассыпаныя густавата. Ці то аўтар кульгае ў правапісе, ці то выдавецтва "Юнацтва" дало пеўня (карэктары М.Пермякова, Д.Лосік). Пішуць: ус*е*магутны, чаго*сці*. У іншым месцы аж крывішся, чытаючы пра "пах флоксаў" (але трохі ніжэй ужо слушна: "флёксавы пах"). Такая ўжо ў нас культура карэктуры.

Брыль сам сябе называе "жаласьлівым". Я б назваў гэта не сантымэнтальнасьцю, а народнасьцю. Якасьць, уласьцівая ўсёй інтэлігенцыі пасьляваеннага прызыву, асабліва заходнебеларускай. І якасьць, што адначасова характарызуе ўсю беларускамоўную інтэлігенцыю, супрацьпастаўляючы расейскамоўнай. Але пад руку з гэтай народнасьцю ідзе відавочная нястача адукацыі. Сэрца баліць за свой народ, а "ў чым яго крыўда" — розум не спасьцігае. Нават такі вялікі, як Брылёў. Прычынаў ня бачыць! Гэх, нашым бы пісьменьнікам ды акадэмічную адукацыю!

Далёкія дарогі вадзілі пісьменьнікаў у савецкі час — Брыль піша пра Гамбург, Стамбул, Дэлі, Абхазію, Бірабіджан... У сёньняшніх яны зазвычай карацейшыя.

Я чытаю першую лірычную замалёўку з кнігі Брыля 10 верасьня 2001 г. Іду з Кастрычніцкай плошчы паўз Нацыянальную бібліятэку ўніз да Ляхаўкі. У двары СШ № 4 насупраць бібліятэкі стаяць колам тры дзесяцікляснікі і сьпяваюць безнадзейна: "Чёрный ворон, чёрный ворон..." Адзін у барэце зь бел-чырвона-белай стужкай, двое бяз шапак. Пусты двор. Школа на занятках. Фіранкі на вокнах не зварухнуцца. Толькі два кадэбісты-ціхары ў чорных скуранках, нібы груганы, вызіраюць з-за рогу гістфаку, цікуючы, ці ня пойдуць гэтыя тры яшчэ бязвусыя дзецюкі на штурм рэзыдэнцыі. А яны і не ідуць на штурм. Роспач, роспач — і няма нават песьні ў сэрцы, каб на сваёй мове засьпяваць. Зубры, відаць.

Нейкае слова Брыль у сваіх замалёўках называе "бабскім". Простае, здаецца, слова, з агульнага запасу — і раптам бабскае! І — трапна называе. Трапна! Мужыкоў парусачыла савецкае войска. Мужыкі пасьпіваліся, паўміралі. Малодшае пакаленьне адраджэнцаў ад бабуляў вучылася мовы, не ад дзядоў, што не вярнуліся з вайны, і не ад пасавечаных бацькоў. Вось і гаворым "бабінай мовай", і сьпяваем збольшага бабіны песьні, самі таго не заўважаючы.

Шукаў, шукаў, якое ж гэта слова Брыль назваў бабскім, і не знайшоў, перачытваючы.

**Барыс Тумар**

# Кніга другая, расьлінная

**Расьлінны сьвет: Тэматычны слоўнік / Склад. В.Дз.Астрэйка і інш.; навук. рэд. Л.П.Кунцэвіч, А.А.Крывіцкі. — Менск: Беларуская навука, 2001. — 655 с.**

У менскім выдавецтве "Беларуская навука" пабачыла сьвет другая кніга з сэрыі "Беларуская народная тэрміналёгія і намэнклятура" — тэматычны слоўнік "Расьлінны сьвет". Ён адчувальна таўсьцейшы за першы выпуск ("Жывёльны сьвет", 1999) — напэўна, таму, што флёра ў нашай краіне багацейшая за фаўну. На больш чым 600 старонках слоўніка можна знайсьці найменьні расьлін і грыбоў з розных мясьцінаў Беларусі, а таксама слоўцы, якія характарызуюць іхныя часткі, якасьці, уласьцівасьці і г.д. Чалавек, які кепска ведае беларускую мову або проста хоча бліжэй пазнаёміцца з рознымі гаворкамі, даведаецца шмат новага. Прыкладам, што баравікі, якія маюць розныя месцы дысьлякацыі і памеры, адрозьніваюцца і праз назву. Той баравік, які расьце пад дубам, на Лагойшчыне ведаюць як дубовік, а ў Лельчыцах — як паддубак. Той, які хаваецца ў бярэзьніку, называецца гаевіком. Пры дарогах растуць путнікі, у верасе — верасовікі, у хвойніку — парасьлёвікі, у імху — беламшанікі, на высокім месцы — гаравыя грыбы, на нізкім — даліновыя. Веснавыя баравікі завуцца мікольнікамі, летнія — расавікамі. Маладзенькія мамаркі, калі іх своечасова ня знойдуць, робяцца старымі пляханамі і ашлэпкамі. Бачыце, як можа слоўнік дапамагчы зрабіць выгляд, што вы назьбіралі ў лесе шмат розных грыбоў, нягледзячы на тое, што ў кошыку — адны баравікі. Але ж грыбамі расьлінны сьвет не абмяжоўваецца. Ёсьць яшчэ і мноства назваў насеньня, зерня, галінак, кветак — вялікая прастора для пашырэньня свайго слоўнікавага запасу. Праўда, філёлягам гэтае пашырэньне пагражае абвастрэньнем жаданьня гуляцца са словамі. Напрыклад, загадваць загадкі: ці можа даць старчака бадзюлькаватая каката захвосьлівай астровы? І хто, згодна з адным клясыкам, залез у віпціньнік, але ня зьеў ніводнае бубкі, спаслаўшыся, што мальга й зялепуха? Насамрэч, у перакладзе на агульназразумелую мову яны гучаць ня так захаплялььна: ці можа вырасьці ўніз калючая галіна невялікай елкі з тонкай вершаліңай? І хто, згодна з адным клясыкам, залез у вінаграднік, але ня зьеў ніводнае ягады, спаслаўшыся, што дробныя і нясьпелыя?




Вось які добры даведнік па расьліннай лексыцы. Вывучаць па ім можна і батаніку, і беларускую мову.

**Вольга Гурло**

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

Leod. **Яснавяльможны пан Леў Сапега**: Міталягізаваная біяграфія. — Гомель, 2001. — 200 с. — Наклад 299 ас. ISBN 985-6092-82-5

*Аўтар кнігі, які схаваўся за псэўданімам Leod, робіць спробу напісаньня поўнае біяграфіі канцлера ВКЛ.*

І.Лагвіновіч. **Разлукі выраёвыя**: Вершы. — Берасьце: Вежа, 2000. — 77 с. — Наклад 299 ас.

В.Бутрым. **У барвах зямлі**: Вершы. — Баранавічы: Сьвятліца, 2001. — 88 с. — Наклад 200 ас.

**Кантакты і дыялёгі**: Беларуска-літоўскае культурнае ўзаемадзеяньне. № 9—10, 2001. — Менск, 2001. — 64 с. — Наклад 299 ас.

*А.Грыцкевіч піша пра канфэрэнцыю, прысьвечаную культурнай спадчыне ВКЛ, А.Дубоніс — пра дасьледаваньні Літоўскае Мэтрыкі ў Літве, а А.Груша — у Беларусі. А.Лапінскене апісвае беларусазнаўчыя досьледы ў Літве ад пачатку XX ст., а Г.Пяткевіч — сёньняшнія літаратурныя сувязі.*

**Рэабілітацыя**: Зборнік дакумэнтаў і нарматыўных актаў па рэабілітацыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў 1920—80-х гадоў у Беларусі / Укл. А.Дзярновіч. — Менск, 2001. — 178 с. — (*Athenaeum*, т. III, калекцыя "Архіў найноўшай гісторыі").

*Зборнік падрыхтаваў гісторык Ігар Кузьняцоў.*

І.Багдановіч. **Авангард і традыцыя**: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэньня. — Менск: Беларуская навука, 2001. — 387 с. — Наклад 800 ас. ISBN 985-08-0459-9

*Дасьледуецца творчасьць паэтаў 10—20-х XX ст. у шчыльнай сувязі з нацыянальна-вызвольным рухам. Аналізуецца творчасьць Паўлюка Шукайлы, Ніны Вішнеўскай, Вацлава Ластоўскага, Кастуся Езавітава, Каруся Каганца, сяброў літаратурнага згуртаваньня "Ўзвышша".*

**Архіў уніяцкіх мітрапалітаў**: Дакумэнты да гісторыі царквы ў Беларусі XVI—XX ст. у фондах гістарычнага архіву Ўкраіны / Скл. С.Паўловіч, Т.Мальцава. — Менск—Полацак, 2001. — 162 с. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-6448-12-3

*Зборнік выдаў Беларускі навукова-дасьледчы інстытут дакумэнтазнаўства й архіўнае справы разам з полацкаю ўніяцкаю суполкаю.*

П.Сьцяцко. **Уводзіны ў мовазнаўства**. — Горадня, 2001. — 229 с. — Наклад 1500 ас. ISBN 985-417-278-3

*Павал Сьцяцко — адзін з найлепшых беларускіх мовазнаўцаў. Кніга каштуе 3,7 т.р.*

**Куфэрак Віленшчыны**: Гістарычна-краязнаўчы і літаратурна-мастацкі часопіс Віленскага краю. № 2 (4), 2001. — Маладэчна, 2001. — 192 с.: іл. — Наклад 299 ас.

*Нумар прысьвечаны Адольфу Клімовічу, аднаму зь лідэраў заходнебеларускіх "хадэкаў". Таксама ў часопісе зьмешчаныя краязнаўчыя нарысы, мэмуары, мастацкая проза.*

**Край = *Kraj***. *Polonica — Albaruthenica — Lithuanica* / Рэд. Я.Іваноў. — Менск: Моладзевае навуковае таварыства, 2001. — 366 с. — Наклад 300 ас. ISBN 985-6609-27-5

*Зборнік прысьвечаны міжкультурным дачыненьням Беларусі, Польшчы й Літвы.*

**Памяць**: Капыльскі раён: Гістарычна-дакумэнтальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / Укл. А.Марціновіч; Рэд. кал. Ф.Абрамчык і інш.; Маст. Э.Жакевіч. — Менск: Беларуская навука, 2001. — 638 с.: іл. — Наклад 5100 ас. ISBN 985-08-0113-1

*У кнізе — гістарычныя нарысы, сьпіс ахвяраў палітычнага тэрору 30-х і фашысцкага генацыду.*

Выдавецтва "Беларусь" выпусьціла 2-е выданьне альбому **"Траецкае перадмесьце"** з краявідамі.

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

# Абое памерлі ад сухотаў

**На тым месцы, дзе зараз месьціцца гарадзенскі драматычны тэатар, на пачатку 1919 г. у адным з пакойчыкаў мужчынскага Барысаглебскага манастыру паміраў паволі ад сухотаў настаўнік першай беларускай школы ў Горадні Аляксандар Грыкоўскі...**

Летам 1915 г., калі адбывалася амаль суцэльная эвакуацыя краю, усё рускае, праваслаўнае апынулася ў вагонах, на вазах, зварухнулася, рушыла на ўсход. Пацягнуліся бясконцыя калёны ўцекачоў, збольшага сілай прымушаных пакінуць уласныя хаты. “З адыходам расейцаў з Горадні, — пісала віленская беларуская газэта “Гоман”, — адразу выявілася, што ўся маскоўшчына ў нас была толькі наносная. Цяпер расейскай мовы на вуліцах зусім не пачуеш. Зато скрозь чутна наша родная беларуская мова. Людзі, каторым перш розныя “дабрадзеі” ўмаўлялі, быццам “сорамна” гаварыць “па-простаму”, цяпер сьмела і галосна гавораць па-свайму. Асаблівую вагу мела тут і тое, што за апошні час усе афіцыяльныя апавяшчэньні і прыказы ў Гарадзеншчыне друкуюцца і па-беларуску”.

“Другая сталіца БНР”, як пасьля назавуць Горадню, пачыналася зь беларускай школкі на вул.Маставой, 9 пры Барысаглебскім манастыры, адчыненай па ініцыятыве Вацлава Ластоўскага і Антона Луцкевіча з дазволу нямецкіх уладаў.

Ужо 21 сакавіка 1916 г. у газэце “Гоман” зьявіўся артыкул “Беларуская школа ў Горадні”. “Як піша “*Grodna Zaitung*”, — гаварылася ў ім, — гэтымі днямі ў Горадні будзе адкрыта беларуская школа ў вельмі выгадным для гэтага памяшканьні, у манастыры сьв.Барыса і Глеба. Дагэтуль запісалася 80 вучняў. Прынімаць экзамэны будуць на гэтым тыдні. Да прыезду зь Вільні настаўнікаў навуку будуць выкладаць тутэйшыя дамы. Дзеці, між каторымі ёсьць у веку ад 6 да 15 гадоў, будуць разьдзелены на дзьве клясы”. Нягледзячы на перашкоды з боку мясцовага польскага актыву, у лістападзе 1918 г. у школе дзейнічала ўжо 3 клясы. Дзеці вучыліся бясплатна. Дбаньнямі настаўнікаў яны атрымлівалі дармавыя абеды, мелі падручнікі і школьныя прылады.

Першымі беларускімі настаўнікамі ў Горадні сталі васямнаццацігадовая Тэкля Станішэўская і старэйшы за яе на пяць гадоў Аляксандар Грыкоўскі. Тэкля Станішэўская нарадзілася ў Вільні. Была сябрам беларускай музычна-драматычнае дружыны, грала ў беларускім тэатры. Пасьля беларускіх настаўніцкіх курсаў была накіраваная ў Горадню. Грыкоўскі паходзіў зь вёскі Корніна Бельскага павету. Скончыў настаўніцкую сэмінарыю ў Панявежы і беларускія настаўніцкія курсы ў Сьвіслачы. “Горадня ў той час зь беларускага боку была пустыняю, — пісала “Беларуская думка”. — Сьвядомая беларуская моладзь з надыходам немцаў была або вывезена, або сама выехала і рассыпалася па ўсходняй Беларусі й Маскоўшчыне. У Горадні бушавала польская чорная сотня, якая, карыстаючыся з прыходу немцаў, захацела спалянізаваць гэтае спрадвечнае беларускае места... Над усім беларускім быў зьдзек. З другога боку праваслаўная царкоўная служба... што асталася пасьля выехаўшых у Маскоўшчыну праваслаўных сьвяшчэньнікаў, пры сваім фанатызьме і цемнаце была найвялікшым прыяцелем усяго маскоўскага і непрыяцелем беларускага, што пры тым уплыве на народ, які гэная служба мела падчас нямецкай акупацыі, перадавалася і самому народу. ...На долю маладой беларускай вучыцелькі-патрыёткі прыйшлося зламаць першы лёд і няпрыязьнь людзей, якія былі пад уплывам чужых нацыянальнасьцяў. Аднак гарачая, шчырая і сыстэматычная праца Тэклі Станішэўскай рабіла сваё. ...Яна адносілася аднолькава як да беларусаў-праваслаўных, так і да беларусаў-каталікоў, і ...здабыла агульную сымпатыю. Бачучы, у якім загоне жывуць праваслаўныя ў Горадні, і што дзеля гэтага яны ў безнадзеяньні, не шукаючы ратунку ў саміх сабе, у беларускім руху, чакаюць спасеньня ад далёкай і чужой Маскоўшчыны, яна выстаралася для іх сьвяшчэньніка, чым яшчэ болей прыцягнула да сябе мясцовае праваслаўнае насяленьне. Праца Тэклі Станішэўскай у Горадні была безупыннай барацьбой ...ня толькі з русыфікацыяй і палянізацыяй, але і зь нямецкай уладаю. Немцы стараліся як найболей увесьці ў школу нямецкіх прадметаў. З гэтым ходалася Т.Станішэўская і ходалася ўдачна. І ...немцы яе паважалі. Скора Тэклі Станішэўскай прышоў на помач малады і энэргічны вучыцель Аляксандар Грыкоўскі. Усьведамлёны ёю, Грыкоўскі горача прыняўся за працу, і работа ўдваіх пайшла спарней. ...Праціўнікі беларускага адраджэньня ня грэбавалі ніякімі спосабамі барацьбы проці беларускіх дзеячоў, і ўсё імі ўжывалася — ад звычайнай агітацыі да абвінавачваньня перад нямецкай уладаю ў расейскім шпіёнстве. Але сьмелая і энэргічная праца беларускіх працаўнікоў зрабіла сваё. Школа стала на цьвёрды грунт, дзяцей хадзіла шмат, бацькі пасылалі ахвотна. Скрануўся зь вялікай сілаю беларускі рух у Горадні. Зазіхацелі бліскучыя гарызонты”.




**Пахаваньне настаўніка першай беларускай школкі ў Горадні Аляксандра Грыкоўскага. Працэсія накіроўваецца ад Фары Вітаўта праз цэнтар места да гарадзкіх могілак.**



**Труна зь целам Аляксандра Грыкоўскага. Лёгка заўважыць, што пакрытая яна літоўскім і беларускім сьцягамі.**

Аднак два гады цяжкай, самаахвярнай працы каштавалі Тэклі Станішэўскай і Аляксандру Грыкоўскаму жыцьця. Здароўе маладых настаўнікаў ня вытрымала, і яны бязмала адначасова захварэлі на сухоты. Улетку 1918 г. Тэкля Станішэўская прыехала ў Вільню і ўжо болей у Горадню не вярнулася. Аляксандар Грыкоўскі застаўся ў месьце. У жніўні 1918 г. ён увайшоў у склад Віленскай беларускай рады, што даручыла яму склікаць беларускі сход Гарадзеншчыны, які б выказаўся наконт дзяржаўнай прыналежнасьці гэтых тэрыторый. У школе пры Барысаглебскім манастыры ў лістападзе 1918 г. быў заснаваны Гарадзенскі беларускі нацыянальны камітэт — першая пасьля суполкі ксяндза Францішка Грынкевіча беларуская гарадзенская арганізацыя. Старшынём яе стаў Грыкоўскі. Антон Луцкевіч, які ў канцы 1918 г. пераехаў у Горадню зь Вільні, высока ацаніў ролю гарадзенскіх беларусаў у справе нацыянальнага адраджэньня. “Мала іх... — пісаў ён ў сваім дзёньніку, — аднак, яны сьмела выступілі ад імя беларусаў, заваёвываючы сабе месца і ў мястовым камітэце, і ва Ўправе... У такім жа палажэньні былі мы з Іванам (Луцкевічам — *А.Ч.*) у Вільні праз увесь час акупацыі, “робячы” новых беларусаў і бязь сіл, бяз грошы, напаўгалодныя і халодныя, ведучы нашу справу”.

Антон Луцкевіч вельмі зблізіўся з Аляксандрам Грыкоўскім. Ён пераканаў хворага настаўніка пакінуць пакойчык у Барысаглебскім манастыры, дзе было вельмі вільготна. Для Грыкоўскага знайшлі сьветлы сонечны пакой, гаспадыня якога міла паставілася да хворага і шчыра апекавалася ім. “Бядак памірае, — чытаем мы ў дзёньніку Луцкевіча. — І нічога яму нельга памагчы... Усе аб ім забыліся, ніхто не заглядвае, а з кожным днём ён таець і таець”. Луцкевіч часта заходзіў да Грыкоўскага, і яны гадзінамі гутарылі. Аб чым размаўлялі гэтыя двое доўгімі зімовымі вечарамі? Апосталы беларускай справы, што зьявіліся, каб выратаваць народ ад небыцьця, ці ведалі яны свой уласны лёс? Адзін зь іх, сьмяротна хворы, пэўна ведаў...

У канцы лютага 1919 г. Антон Луцкевіч на колькі тыдняў ад’яжджае ў Вільню. Ягонае вяртаньне супала са сьмерцю Аляксандра Грыкоўскага. “Калі я вярнуўся зь Вільні, — успамінаў Антон Луцкевіч амаль праз сямнаццаць гадоў, — дык хацеў зараз жа наведацца да яго, але быў гэтак змучаны дарогай, што назаўтра цэлы дзень праляжаў. А яшчэ празь дзень прынесьлі мне сумную вестку, што Грыкоўскі ўчора памёр. Увесь апошні дзень чакаў на мой прыход. Калі я прыйшоў да яго, ён ужо ляжаў у труне. І страшна сьціснула маё сэрца ад болю, бо я раптам прарочымі вачыма ўглядзеў Івана, каторы праз паўгоду пайшоў па сьлядах Грыкоўскага”.

15 сакавіка 1919 г. на пасяджэньні Рады міністраў БНР у Горадні было вырашана ўзяць усе выдаткі па пахаваньні Грыкоўскага на рахунак ураду БНР. Пахаваньне беларускага настаўніка вылілася ў маніфэстацыю беларускага руху, якой Горадня яшчэ ня бачыла. У першы раз праз горад прайшла працэсія зь беларускімі нацыянальнымі сьцягамі, якая складалася зь сяброў мясцовых беларускіх арганізацыяў ды вучняў беларускай школкі. А ў красавіку 1919 г. беларускі кампазытар Ян Тарасевіч напісаў раманс “Восеньская песьня” на верш Багдановіча “Плакала лета, зямлю пакідаючы...”, прысьвечаны памяці першага гарадзенскага беларускага настаўніка.

“З жалем, сумам і сьлёзамі везьлі мы яго ў царкву, ...праводзілі яго да магілы, пакрылі кветкамі і ўшлі, пакінуўшы яго на горцы каля Нёману, — пісала гарадзенская газэта “Бацькаўшчына”. — З гэтага часу векавечным суседам і таварышам яго будзе Нёман. Нёман будзе баюкаць яго сон сваім сумным гоманам. Нёман будзе казаць яму аб тым, што робіцца на Беларускай зямельцы. Нёман будзе сьведкам, ці стрымаем мы тыя клятвы, што давалі пад чырвоным штандарам над раскрытай, незасыпанай магілай у час расставаньня. Беларусы, памятайці гэту магілу, памятайці сьведку-Нёман, памятайці свае клятвы!”

У хуткім часе прыйшла сумная вестка пра сьмерць Тэклі Станішэўскай, якая ў Вільні лячылася ад сухотаў і працавала, колькі магла, у беларускім прытулку “Золак” і ў “Беларускай кнігарні”. У сакавіку 1919 г. яна зьлягла ў клініцы, а ў сераду 21 траўня 1919-га памерла — на два месяцы пазьней за Аляксандра Грыкоўскага.

На жаль, сучасныя гарадзенцы ня ведаюць, дзе тыя магілы. Не засталося ў Горадні больш ніводнай беларускай школкі. Аднак жыцьцё працягваецца, як працягваецца барацьба беларускага народу за нацыянальнае адраджэньне, а значыць — і наш шпацыр па беларускай Горадні.

**Андрэй Чарнякевіч**



# “Ратуша” судзіцца з *СБ*

**Гарадзенскае абласное грамадзкае аб’яднаньне “Ратуша” падало ў суд на газэту *Советская Белоруссия*.**



**Адвакат Куц**

Аб’яднаньне патрабуе, каб газэта абвергла інфармацыю, якую яна зьмясьціла на сваіх старонках у перадвыбарным спэцвыпуску. Там, у артыкуле “Апэрацыя “Белы Бусел”, адзначалася, што “Ратуша” ледзь ня ў мэтах зьвяржэньня існага рэжыму школіць жаночыя баявыя брыгады.

“Ратуша” — адзіная ў Беларусі арганізацыя, якая пасьля зьяўленьня артыкулу наважылася выступіць у абарону свайго гонару й годнасьці. Адвакат Алег Куц, які адстойвае інтарэсы “Ратушы”, пэўны, што арганізацыя выйграе суд і прымусіць *СБ* выступіць з афіцыйным абвяржэньнем.

Прадстаўнікі газэты сьведчаць, што зьвесткі былі атрыманыя нібыта ад Рады бясьпекі краіны. А Радзе бясьпекі, маўляў, гэтую інфармацыю перадаў маскоўскі Цэнтар незалежных палітычных дасьледаваньняў. Між тым, у адказе на запыт “Ратушы”, які днямі прыйшоў з Масквы, тлумачыцца, што цэнтру з такім назовам у Маскве не існуе.

Адначасова са справай “Ратушы” Алег Куц адстойвае ў судзе інтарэсы Сямёна Домаша. Былы кандыдат пачаў супраць аўтара “Тайных спружынаў палітыкі” Юр’я Азаронка працэс па справе абароны гонару й годнасьці. “Мы абавязкова дакажам, што ўсё тое, што казаў Азаронак у сваёй праграме пра Домаша, зьяўляецца цынічнай лухтой”, — адзначыў адвакат.

**Павал Мажэйка**

**Гэтыя артыкулы былі падрыхтаваныя для газэты “Пагоня”, выхад якой быў спынены рашэньнем Гаспадарчага суду 12 лістапада.**

# Наш Падарэўскі



Дзеля Падарэўскага я прыехала ў Варшаву. Блукала па вуліцах, па якіх ён любіў хадзіць. Фатаграфавала камяніцы, у якіх ён жыў. Зазірнула ў ягоны музэй у Лазенках і пачціва аглядала ягоныя мэдалі, лаўровыя вянкі са срэбра і золата, кітайскія сэрвізы ды розныя дзівосы, атрыманыя ў дар ад вяльможных асобаў. Цэлы тыдзень прасядзела ў кансэрваторскай бібліятэцы, гартаючы груваcткія тамы з апісаньнямі ягоных жыцьцёвых прыгодаў. Завітала ў рэдакцыю часопісу "Рух музычны" да Людвіка Эрхарда. Калі ён пачуў, што я прыехала дзеля Падарэўскага, радасна ўсьміхнуўся: "Увесь архіў Падарэўскага захоўваецца ў гэтым будынку, дзесяць мэтраў адсюль па калідоры".

Архіў агромністы. 36,5 мэгабайта — 4498 адзінак захоўваньня — 26 мэтраў архіўных паліцаў. Яму пісалі дзясяткі тысячаў людзей: дзякавалі, прасілі аб матэрыяльнай падтрымцы, прапаноўвалі сваю дапамогу ў рэалізацыі палітычных праектаў... Адно толькі ліставаньне Падарэўскага са 150 банкамі, якія апекаваліся ягоным гіганцкім маёнткам, займае каля 200 архіўных тэчак.

Пісалі Падарэўскаму і беларусы. Мне ўдалося адшукаць два лісты. Першы — зь пячаткаю Цэнтральнага ўраду Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры:

"Шаноўнаму Пану Ігнату Падарэўскаму ў Маржэ.

Беларускае насельніцтва Дзяржавы Польскай, колькасьць якога, паводле апошніх урадавых зьвестак, перасягае паўтара мільёна душаў, дзякуючы неспрыяльным гаспадарчым умовам перажывае зараз выключна цяжкі перыяд ва ўсіх сфэрах свайго жыцьця. Беларускага школьніцтва, за выключэньнем пары гімназіяў, не існуе; злюмпэнізаваная вёска ня ў стане культурна ўзьняцца без магчымасьці карыстаньня з кнігі і газэты на роднай мове. У дадатак да гэтага ліха некалькі паветаў на Віленшчыне зь пераважна беларускім насельніцтвам сёлета пацярпелі ад голаду ў надзвычайных памерах. Згодна з апошнімі падлікамі, у дадзены момант патрабуюць неадкладнай дапамогі звыш 40 тысяч сем'яў.

З вышэйпададзеных прычынаў Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры як установа, што мае на мэце культурную і гаспадарчую працу сярод беларусаў, пасьля канчатковага вычарпаньня сваіх сьціплых сродкаў зьвяртаецца да Вас з ласкавай просьбай хоць бы крыху падтрымаць зьбяднелае насельніцтва.

Праўленьне Інстытуту насьмельваецца выказаць надзею, што заклік да гуманных пачуцьцяў не застанецца бяз рэха.

Усе ахвяраваньні просім дасылаць на адрас: Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры ў Вільні. Вул. Завальная, № 1.

Ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі — прэзыдэнт.

Сябры Праўленьня:

У.Багдановіч, б.сэнатар РП.

Д-р Б.Грабінскі.

Інж. А.Клімовіч.

А.Стаповіч, б.дэпутат Сойму РП.

Дня 11 красавіка 1934 г., № 369".

У архіве Падарэўскага адшукаўся й ліст ад Антона Луцкевіча — прэм'ера ўраду БНР, аднаго з заснавальнікаў "Нашай Нівы".

"Вільня, дн.11.VII.1935.

Глыбокашаноўны Пане!

У часе Вэрсальскага Кангрэсу, калі я стаяў на чале ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі, я меў прыемнасьць спаткацца з Вамі як тагачасным шэфам польскага ўраду. Нягледзячы на тое, што наступныя ўрады Польшчы пахавалі тыя польска-беларускія палітычныя праекты, пра якія мы размаўлялі падчас канфэрэнцыі, а нацыянальныя правы той часткі беларусаў, якія апынуліся ў межах Рэчы Паспалітай, стала і сыстэматычна растоптваюцца, — гэта не паўплывала на нашыя добрыя стасункі з той нешматлікай, як напраўдзе, духоўнай элітай польскага грамадзтва, якая ўмее шанаваць іншыя народы — нават падпарадкаваныя.

Памятаючы пра тое, зь якой гарачай сымпатыяй Вы казалі калісьці ў Парыжы пра беларускі народ, я пастанавіў зьвярнуцца цяпер да Вас — тым разам не як да палітыка, але як да артыста-музыкі. Гаворка ідзе пра справу, якая можа Вас зацікавіць і ўзбагаціць Вашую творчасьць новымі вартасьцямі.

Ужо колькі год надзвычай багатая мэлёдыямі беларуская народная музыка зьяўляецца прадметам апрацоўкі й выкарыстаньня з боку расейскіх кампазытараў. Аладаў, Анцаў і іншыя зь непадробным захапленьнем працуюць як над гарманізацыяй беларускіх песень, так і над стварэньнем собскіх твораў на аснове беларускіх матываў. Найбольш захоплены нашымі народнымі песьнямі Грачанінаў, які жыве зараз у Парыжы, і мы зь ім лістуемся. Зь нязвыклым майстэрствам і разуменьнем духу народу нашага ён апрацоўвае дасыланыя яму мэлёдыі для хору, напісаў колькі арыгінальных твораў па беларускіх матывах (апошнім часам — "Беларускую сюіту") і мае намер прыступіць да стварэньня беларускай опэры на лібрэта, над якім мы паводле ягонае просьбы працуем.

Гэты гарачы і ў найвышэйшай ступені абгрунтаваны запал расейскіх музыкаў абуджае натуральнае пытаньне: чаму ж польскія музыкі зьвяртаюць гэтак мала ўвагі на беларускія песьні? Як напраўдзе, "Літоўская рапсодыя" Карловіча цалкам пабудаваная на беларускіх жніўных сьпевах і толькі ў памяць гістарычнае традыцыі Вялікага Княства Літоўскага была названая "літоўскай". У передваенны пэрыяд таксама ў Вільні нейкі час працаваў над беларускай песьняй Людамір Міхал Рагоўскі, які стварыў "Беларускую сюіту", што зь вялізным посьпехам выконваў тутака сымфанічны аркестар; потым, аднак, яна дзесьці загінула бязь следу падчас вандровак аўтара па сьвеце. Але ўсё гэта датычыць перадваеннай Польшчы. У сёньняшняй Польшчы ніхто гэтым не цікавіцца, хоць пару разоў мы спрабавалі перадаваць па радыё на ўсю Польшчу нашыя народныя песьні — у выкананьні тутэйшага беларускага хору, арганізаванага палкім працаўніком на ніве роднае музыкі сп.Шырмам (беларус).

І вельмі шкада. Бо расейскія музыкі могуць міжволі прыўносіць у свае апрацоўкі элемэнты ўсходняй музычнай культуры, прытым што беларуская культура заўжды ўяўляла сабой асаблівы сынтэз усходніх і заходніх уплываў. Таму для нас вельмі важна, каб над нашымі песьнямі працавалі таксама й людзі Захаду.

Я ўмысьліў зацікавіць Вас гэтай справай з прычынаў цалкам зразумелых: тутака ў Польшчы я ня ведаю ў музычных сфэрах нікога, хто б мог да гэтай справы падысьці са шчырай — чалавечай, а не вузканацыяналістычнай меркай. Таму я сабе дазволіў — адначасова зь цяперашнім лістом — даслаць Вам некалькі збораў беларускіх народных мэлёдыяў, якіх яшчэ тысячы чакаюць на публікацыю і апрацоўку. Калі б гэта Вас зацікавіла, мы б ахвотна дасылалі ад часу да часу цікавыя беларускія мэлёдыі, якія зьбірае Беларускае Навуковае Таварыства ў Вільні. Апрацоўка альбо выкарыстаньне іх у Вашай творчай працы мела б вялізную вагу.

У чаканьні на Ваш ласкавы адказ дасылаю Вам сьведчаньні сваёй глыбокай пашаны

Антон Луцкевіч.

Мой адрас: Вільня, вул.Піўная, 2, кв.8".

Невядома, як адрэагаваў і ці адрэагаваў увогуле Падарэўскі на гэтыя звароты. Ні адказаў, ні іншых сьведчаньняў таго, што ён не застаўся абыякавым да беларускіх праблемаў, не захавалася. Магчыма, далейшыя дасьледаваньні праліюць сьвятло на гэтую таямнічую гісторыю.

**Юлія Андрэева**

## Падарэўскі ў Філярмоніі

**27 лістапада ў Беларускай філярмоніі адбыўся сымфанічны канцэрт у гонар закрыцьця юбілейнага году Ігната Яна Падарэўскага.** Імпрэзу ладзіў Польскі інстытут разам зь Міністэрствам культуры Беларусі. Праграма складалася галоўным чынам з музыкі Падарэўскага: "Дванаццаць песень" на вершы Катула Мэндэса і "Татраўскі альбом" — збор апрацовак польскіх народных песень і танцаў, у свой час вельмі папулярны ня толькі ў Польшчы, але і ў Беларусі. Кожная беларуская паненка, якая ўмела граць на фартэпіяна, мела гэты твор у сваім рэпэртуары. Менавіта "Татраўскі альбом" навёў Луцкевіча на думку даслаць Падарэўскаму беларускія народныя песьні для апрацоўкі.

Музыку Падарэўскага выконваў камэрны аркестар *Jeunesses Musicales*, які складаецца са студэнтаў і ўчорашніх выпускнікоў Варшаўскае кансэрваторыі. У ліпені 2000 г. аркестар выдаў свой першы дыск у варшаўскім музычным выдавецтве *Acte Prealable*, якое прыкладна ў той жа час выпусьціла дыскі з творамі беларускіх кампазытараў Галіны Гарэлавай і Яна Тарасевіча.

**Ю.А.**

**ІГНАТ ЯН ПАДАРЭЎСКІ (1860—1941)**

**Выдатны польскі кампазытар, піяніст і палітык, першы прэм'ер-міністар незалежнай Польшчы. Аўтар фартэпіянных п'есаў, песень на вершы А.Міцкевіча і А.Асныка, а таксама опэры "Манру" (1901). Зрабіў фэерычную піяністычную кар'еру. Меў мільёны прыхільнікаў. Кажуць, у эскімосаў быў нават гатунак бульбы, які называўся "Падарэўскі".**

**Славу і грошы, зробленыя мазольнаю гастрольнаю працаю, ён скарыстаў, каб аднавіць незалежнасьць Польшчы. Калі яму было шэсьць гадоў, ён падлічыў, што ў 1910 г. будуць сьвяткавацца 500-я ўгодкі Грунвальдзкай бітвы, і пастанавіў, што пабудуе найпрыгажэйшы помнік у гонар гэтай падзеі. Грунвальдзкі помнік (пазьней зруйнаваны нямецкімі фашыстамі) паўстаў 15 ліпеня 1910 г. у Кракаве. Гэта быў падарунак Падарэўскага польскаму народу.**

**Падарэўскі нядоўга пратрымаўся на пасадзе прэм'ер-міністра. Рэшту жыцьця ён пражыў у Швайцарыі. З пачаткам другой сусьветнай вайны Падарэўскі ўзначаліў Польскую Нацыянальную Раду (эміграцыйны ўрад) у Лёндане. Памёр у Нью-Ёрку 29 чэрвеня 1941 г.**

## ДЫСКАГРАФІЯ

## Цацачная крама

**"Цацачная крама". Зьміцер Вайцюшкевіч. (р) 2001, "Ковчег".**



У мяне такое падазрэньне, што Зьміцер "Тодар" Вайцюшкевіч задумаў завязаць з музыкай і адкрыць уласны бізнэс. Мадэль таго бізнэсу ён вырашыў апрабаваць на публіцы, выдаўшы свой першы сольны праект — двухсэнсоўны, арыгінальны і напэўна спрэчны. А яшчэ — безумоўна цікавы.

Двухсэнсоўнасьць вынікае з паэзіі стомленага цэлай Эўропай Леаніда Дранька-Майсюка. Свойскія жывёлы і жыхары лясоў у ягонай падачы набылі рысы ці не пэрсаніфікаваных асобаў, амаль людзкіх тыпажоў. Прычым дзеці й дарослыя ўбачаць у тых асобах рознае. Дзеці здымуць верхні слой, а дарослыя таямніча заўсьміхаюцца: ведаем, маўляў, што (і каго!) паэт меў на ўвазе.

Арыгінальны праект таму, што ня так часта ў беларускай музыцы зьяўляюцца праграмы канцэптуальныя, зьнітаваныя адзіным сэнсавым і музычным вырашэньнем. Кожнаму пэрсанажу нададзены ўласныя яскравыя музычныя характарыстыкі (Галодны Воўк, Разумная Варона, Белавескі Зубр). Ці не ўпершыню да ўдзелу ў андэграўндавым праекце далучылася Ядвіга Паплаўская зь ейным крышталёвым галасочкам, што надзвычай узбагаціла "Песенькі Гаспадара" і "Песьню Галоднага Ваўка". Сама музыка мае безумоўна народныя вытокі. Шлягераў, бадай, няма (можа, толькі "Песенька няшчаснага Казла"), але яны былі б тут і не да месца.

Спрэчнасьць жа вынікае з адвечнае прагі айчынных выканаўцаў дамагчыся нарэшце вялізнага камэрцыйнага посьпеху. "Цацачная крама" напэўна ня ставіла на мэце ўпісацца ў тыя памкненьні. Але цалкам магчыма, што менавіта за кошт арыгінальнасьці альбом будзе карыстацца куды большым попытам, чым тыя, якія ствараліся з разьлікам найперш на камэрцыйны посьпех.

Нарэшце, альбом проста цікавы, бо раскрывае Зьмітра як лідэра праекту, кампазытара і наагул ідэйнага гаспадара ўласнае справы. У краме той сапраўды ёсьць што набыць. Гэта ня "Паркінг" зь ягоным зболышага прывазным таварам. Уласьнік Вайцюшкевіч прапануе арыгінальнае. Так што купляйце сваё!

**Куплены Слухач**

## Камэрата

***"Just"*. Вакальная група "Камэрата". (р) 2001.**




Тыражаваны ў Польшчы трэці па ліку альбом групы гучыць усяго 35 хвілінаў, але асалоды столькі, што, здаецца, ня меней за гадзіну ты купаўся ў музыцы, высокай па клясе й віртуознай па выкананьні.

Аранжаваньні Аляксандра Доўнара ды Ігара Мельнікава вытрыманыя ў звыклай для ансамблю стылістыцы. Група сьпявае без акампанэмэнту, за выключэньнем песьні "*Oya Negra*", падчас запісу якой да вакалістаў далучыліся музыкі з джаз-групы "*Apple Tea*". Апрача вытрыманага ў лацінаамэрыканскай стылістыцы твору "*Prende la Vella*", рэшта — скрозь джазавая клясыка, уключаючы "*Just A Gigolo*" Казучы, "*Whisper Not*" Бэні Голсана, "*In a Sentimental Mood*" Д'юка Элінгтана. Выконваецца таксама славуты сьпірычуэлз "*Nobody Knows*". Ва ўсіх гэтых творах "Камэрата" ўжывае здаўна апрабаваны прыём імітаваньня партыяў асобных музычных інструмэнтаў (найперш — ударных і басу) праз спэцыфічна апрацаваныя без дапамогі электронікі натуральныя галасы. Уражаньне — выключнае! Ведаю выпадак, калі адзін прафэсійны музыка адмовіўся верыць, што вакалісты працуюць без акампанэмэнту. І — памыліўся!

Аднаго шкада: выраблены за мяжою тыраж альбому, напэўна, амаль цалкам за мяжой і застанецца: па словах Ігара Мельнікава, ён ужо практычна разышоўся за час летніх вандровак групы па шматлікіх эўрапейскіх джаз-фэстываля. А было б няблага і гэты альбом выдаць на радзіме, бо джазу тут у паўсядзённым жыцьці — поўныя бубны. Так што попыт на гэтую выдатную музыку гарантаваны!

**Just Słuchač**

Адам Глёбус

# НЕВЯЛІКАЕ ПРА ВЯЛІКІХ

## кішэнная гісторыя культуры

### VIII СТ. ДА Н.Э. ГАМЭР

Найлепшыя творы ў вялікай літаратуры напісаныя на вельмі просты сюжэт. Чалавек (гамэраўскі Адысэй ці джойсаўскі Ўліс) выйшаў з дому й вярнуўся дамоў. Ці Гамэр вынайшаў той сюжэт? Не. Але менавіта грэк стварыў першы ўзорны тэкст на такі бездакорны сюжэт.

### I СТ. ДА Н.Э. ГАРАЦЫ

*Lassus maris et viarum* (стаміўшыся ад мора і шляхоў). Пісаў Гарацы. Стаміўшыся ад неба і шляхоў. Так варта сказаць на пачатку XXI стагодзьдзя.

### XVI СТ. ШЭКСЬПІР

Калі б Дэздэмана жыла ў наш час, Атэла задушыў бы як не з-за хустачкі, а з-за фатаздымка з лазьні, на якім аголеная Дэздэмана плавала б у басэйне з аголеным містэрам X.

### XVI СТ. ЭЛЬ ГРЭКА

Тут не зусім пра вялікага маньерыста, хутчэй пра ягоны твор "Апосталы Пётра і Павал", адзін зь найлепшых і бясспрэчных шэдэўраў майстра з Гішпаніі. А сутнасьць у тым, што пабачыў я пару аголеных хлопцаў на ранішнім пляжы. На загарэлых антычных целах выразна бялелі накінутыя на плечы ручнікі. Хлопцы размаўлялі ў промнях густога сонца, што толькі ўзьнялося з-за гары. Размова была настолькі выразная, што я ня мог адвесьці вачэй. Дыялёг вёўся на мігах. Бязгучная размова глуханямых заварожвала. Яны нечым нагадвалі маладых апосталаў Пятра з Паўлам. Згадалася палатно Эль Грэка. І сапраўды, на ім намаляваныя глуханямыя, якія нешта тлумачаць нам жэстамі, нешта важнае, сакральнае, таемнае. А мы не разумеем. Як не разумеем нямых на фрэсцы Рафаэля "Атэнская школа", дзе і Плятон, і Арыстотэль з Сакратам бязмоўныя. Зрэшты, усе людзі на карцінах і фатаздымках нямыя, з малаўцямнымі жэстамі. А калі і зьяўляюцца нейкія слоўцы, дык толькі на ўзроўні коміксавых, пакамечаных сказаў.

### XVI СТ. МАНТЭНЬ

Нездарма ў час зьяўленьня Інтэрнэту наймаднейшым зь літаратараў стаўся Мішэль Мантэнь са сваімі эсэ, вытканымі зь безьлічы спасылак і цытатаў. Маючы процьму інфармацыі, можна выцягнуць зь Сеціва колькі заўгодна тэкстаў на патрэбную тэму й зь іх зьляпіць нешта накшталт мантэнеўскага эсэ. Але дзе ўзяць крыштальна ясную думку, якая, як сталёвы стрыжань, аб'яднае ўсе гэтыя мясістыя запазычанасьці й зробіць іх тваімі? Дзе ўзяць мантэнеўскія агонь, агмень, напал, якія апрацуюць, сплавяць, прыгатуюць уежную літаратурную страву? У Інтэрнэце адказу няма.



### XVIII СТ. СЬВІФТ

Ірляндзец Джанатан Сьвіфт казаў: "Няшмат публікі сабраў бы чалавек, калі б надумаўся ўтыркнуць у бочку з порахам распалены да чырвані шомпал — хай і браў бы за відовішча толькі тры пэнсы". З усёй сваёй павагаю да ірляндзкага чорнага гумарыста, не магу зь ім пагадзіцца. Менавіта авантурысты-рэвалюцыянэры зьбіраюць найбольшую колькасьць гледачоў на свае фокусы з порахам, дынамітам і трацілам. Галоўнае ў піратэхнічнай справе — пераканаць публіку, што ты сапраўды ўставіш шомпал у бочку, насамрэч накіруеш самалёт у хмарачос.

### XVIII СТ. МАРКІЗ ДЭ САД

Калі чытаеш запавет дэ Сада і трапляеш на сказ: "Як толькі магілу засыплюць, зьверху трэба пасеяць жалуды, каб пазьней месца гэтае ўкрыла расьліннасьць, выгляд лесу нічым не парушыўся, а найдрабнейшыя сьляды маёй магілы зьніклі б з твару зямлі — як, цешу сябе надзеяй, сатрэцца з чалавечай памяці й сам успамін пра маю пэрсону", — міжволі адчуваеш сябе сьвіньнёю, што жарэ тыя жалуды.

### XIX СТ. ГОЯ

На сьцяне ў зашклёнай нішы вісіць агромністы фотаплякат з аўтапартрэтам наравістага Франсыска Гоі з сэрыі *Los Caprichos*. Прымружанае вока гішпанскага генія касавурыцца на мяне. Вусны грэбліва падціснутыя. Нешта няўлоўна роднае бачыцца мне ў мясістым твары, абрамленым кудлатымі бакенбардамі. У ім ёсьць нешта пінска-палескае, гогалеўскае... Гоя падобны да Сабакевіча, прататып якога некалі гуляў на мяжы Ўкраіны й Беларусі. А можа Мікалай Гогаль сьпісваў свайго Сабакевіча з Гоі? Шукаць адказы і паралелі я кіруюся на выставу афортаў. Ці сапраўды Вій і героі *Los Caprichos* нараджаліся ў сонным розуме?

*La Tauromaquia* з быкамі і тарэадорамі скіроўвае думкі ў іншы бок. Зь якой слодыччу Гоя вымалёўваў быкоў, што забіваюць людзей! Мала таго, што ён сам піў крывавую слодыч, дык папрывучваў да крывасмоцтва нашчадкаў, такіх, як Пікаса і Далі. Экстрэмальным атрымаўся ў Гоі малюнак з быком на трыбунах. Растаптаўшы крыважэрных гледачоў, жывёла ўзвышаецца над трыбунамі, трымаючы на рогах труп тарэадора. Бык-пераможца! Тое, чаго жадалі, адбылося.

Жахі вайны, выгравіраваныя бязьлітаснай іголкай д'ябальскага Франсыска, — толькі імправізацыі на тэму карыды. У ролі быкоў тут выступаюць францускія салдаты, а ролю тарэадораў узялі на сябе гішпанкі. А розьніца ў тым, што ўсе спачуваньні на баку жанчын, а не быкоў-забойцаў.

На выставе Франсыска Гоі прыходзіць яснае разуменьне, што мастак ня можа стаяць убаку, калі зьневажаюць, ганяць і нішчаць Радзіму. Вайна вырвецца з арэны на трыбуны, няма застрахаваных ад рагоў сьмерці. Ёсьць патрыёты і ёсьць здраднікі. Як можна маўчаць, калі Асёл бярэцца вучыць, як нам трэба пісаць і чытаць? Калі малпы пад гітарнае трыньканьне ўслаўляюць Асла. Калі кнігі можна друкаваць толькі на мове Асла, маляваць можна толькі Асла. А нахабны Асёл залазіць на каркі людзей і панукае іх, і езьдзіць на іх. Як можна ня бачыць вырадкаў, што з раніцы да ночы глядзяцца ў люстэркі і не заўважаюць уласнай пачварнасьці? Як не адчуць смуроду, пушчанага з асьлінай дупы, які выpадкі называюць водарам? Як заснуць, як спаць, калі сон розуму нараджае, плодзіць, клануе монстраў?

А самае кепскае, што бачыш на афортах Гоі, і тады і зараз, і ў іх і ў нас сьвятары забываюцца на Бога, гандлююць гарэлкаю і самі п'яніцы горкія.

### XIX СТ. БАДЛЕР

Рамантык Шарль Бадлер марыў вырваць пяро з анёльскага крыла, каб апісаць каханьне, а мне патрэбна чорнае пяро з крыла Ікара, каб апісаць сьмерць.

### XIX СТ. РЭНАР

Рэнар заўважыў, што вернік стварае Бога падобным да сябе, але не зразумеў, што атэіст гэтаксама абвяргае Бога, падобнага да сябе.

### XIX СТ. РЭНАР

Перад сьмерцю яна ператварылася ў расьліну... — заўважыў Рэнар пра нейкую Анарыну, пабачыўшы ейныя длінюткія пазногці. Зрэшты, усе мы ператворымся ў расьліны, толькі лепш хай гэта здарыцца пасьля сьмерці.

### XX СТ. ПІКАСА

Запасьлівы Пабла Пікаса на адзін зь першых ганарараў прыдбаў вялізную гурбу фарбаў, каб хапіла на ўсё жыцьцё. Так робяць заможныя алькаголікі — на заробленае набываюць рэстарацыю з барам, застаўленым рознакалібэрнымі бутэлькамі. Нацешыўшыся сьпірытусам да млосьці, калі й трыццаць грамаў ня можаш праглынуць, альканаўты пераходзяць да наркотыкаў: марыхуана, гераін, какаін... Так і Пікаса, намаляваўшыся алейнымі фарбамі, заняўся скульптураю, афортамі, керамікаю...

### XX СТ. ПІКАСА

Існуе ўстойлівая думка, што Пікаса быў паталягічна сквапнай асобаю. Ён не прыбіраў у майстэрні гадамі, каб бачыць, ці не хадзіў хто чужы, ці не кранаў ягоных рэчаў. Зь іншага боку, творы Пікаса кралі й крадуць больш за ўсе астатнія шэдэўры XX ст. Спадчына мастака ўстойліва трымае першае месца па рабаваньнях. Як тут ня быць сквапным?

### XX СТ. КАФКА

Ходзячы па Празе, я ўпэўніўся: апавяданьні Франца Кафкі напісаныя пры сьвятле кволай сьвечачкі.

### XX СТ. ГАШАК

Празарліўства Яраслава Гашка добра відаць у праскім Музэі васковых фігураў. Сярод мёртвых Далі, Чапліна, Айнштайна, Фройда самы жывы — ягоны салдат Швэйк.

### XX СТ. ВАРГОЛА

"Будзеш варголы?" — пытаўся ў мяне дзед Бронік. "Ня буду!" — адказваў я, бо лічыў сябе вялікім і слова "варголы" ведаў. "Варголы" — голы вар, голы пусты кіпень. Варголы з цукрам у прыкуску пілі ў вайну, калі не было гарбаты.

І як я зьдзівіўся, калі пачуў, што сапраўднае прозьвішча найвялікшага мастака Амэрыкі — Варгола. Калі й быў нехта ў мастацтве выключна амэрыканскім жывапісцам, дык толькі Эндзі Ўоргал — бацька поп-арту. І тут раптам Андрэй Варгола, альбінос, русін, чые бацькі нарадзіліся ў Карпатах між Украінай і Славаччынай. "Варгола" — па-русінску "пудзіла". І сапраўды так, бо ўвесь поп-арт — гульня з пудзіламі.

### XX СТ. ЁКА ОНА

Зараз ідзе безьліч спрэчак пра вартасьці Ёка Оны. Ці мастак яна? Да якой культуры належыць? Заходняй? Усходняй? Адно для мяне бясспрэчна: яна — геній пэрформансу. Яе выхад замуж за Джона Ленана, самага культавага сучаснага музыку, — найлепшы пэрформанс за апошнія 100 гадоў.

## ДЗЕ ВАРТА БЫЦЬ

### Згадайце пра Максіма

**9 сьнежня – 110-я ўгодкі з дня нараджэньня Максіма Багдановіча.**



А 17-й у кінатэатры "Зьмена" адбудзецца прагляд дакумэнтальных стужак студыі "Летапіс" – "Забытыя нябёсы" і "Максім Багдановіч". Да помніка Багдановічу, што каля Опэрнага тэатру, у гэты дзень традыцыйна ўскладаюць кветкі. Тым больш, што ў помніка сёлета свой юбілей – 20 год з дня адкрыцьця. Калі ж няма такой магчымасьці, можна проста перачытаць творы паэта.

### Ланцуг неабыякавых людзей

**9 сьнежня ў рамках кампаніі "Хочам ведаць праўду!" пройдзе агульнанацыянальная акцыя "Ланцуг неабыякавых людзей",** прымеркаваная да 53-й гадавіны з дня прыняцьця Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека. Ахвотных узяць удзел Аб'яднаная грамадзянская партыя запрашае з 15-й да 16-й на праспэкт Скарыны (ад плошчы Незалежнасьці да Кастрычніцкай плошчы). 10 сьнежня ў шэрагу эўрапейскіх сталіцаў плянуецца зладзіць пікетаваньне беларускіх дыпляматычных прадстаўніцтваў.

### Вокны ў Магілёве

**З 5 сьнежня да 9 студзеня ў Магілёўскім абласным мастацкім музэі будзе працаваць міжнародная выстава графікі "Вокны аднаго гораду".** Мастакі зь Мюнхену, Варшавы, Горадні і Менску пакажуць вокны сваіх гарадоў магілёўцам. Шмат якія работы беларусаў (Паўла Татарнікава, Андрэя Басалыгі і інш.) адзначаныя на міжнародных фэстывалях графікі, а нямецкія вокны ды падваконьні ўражваюць адметнай стылістыкай (творы Гервіна Шміта, напрыклад, спалучаюць у сабе графіку, фатаграфію і паэзію).

### Трасьцянец – угодкі трагедыі

**9 сьнежня аб 11 гадзіне ў касьцёле Сьв.Сымона і Алены адкрыецца выстава фотаматэрыялаў, дакумэнтаў і мастацкіх твораў "Трасьцянец – 60 год трагедыі (1941—2001)".** Ахвяры нацысцкага генацыду і Галакосту, якія прынялі ў Трасьцянцы ў 1941—44 гадох пакутніцкую сьмерць, будуць спамянутыя ў касьцёле Сьвятой Імшой і сьпевамі ў выкананьні харавых калектываў дыяцэзіі (у тэатральнай залі касьцёлу). Далей у праграме – выступы дасьледчыкаў, грамадзкіх дзеячоў і сьведкаў трасьцянецкае трагедыі, прэзэнтацыя выставы, паказ дакумэнтальнага фільму "Трасьцянец" (1995, рэж. У.Колас). Як вядома, сябар Рады БНР ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, які ў 1941—42 г. вёў службы ў касьцёле Сьв.Сымона і Алены і ў касьцёле на Кальварыі, 24 сьнежня 1942 г. між 21-й і 22-й гадзінамі быў забіты ва ўрочышчы Благаўшчына (Трасьцянец) кіраўніком аддзелу паліцыі бясьпекі і СД Менску Г.Хойзэрам і тамсама таемна пахаваны ў адной з 34-х брацкіх магілаў.

### Помнік Ларысе Геніюш

**9 сьнежня ў 13.30 у Старых Дарогах адкрыюць помнік Ларысе Геніюш.** Лёс ушанаваньня памяці паэткі досыць складаны: ужо чатыры гады гатовы помнік стаіць у менскім Доме літаратара. У нядзелю будуць адкрываць не яго, а другі варыянт, створаны з ініцыятывы кіраўніка менскага клюбу "Спадчына" Анатоля Белага.



Дзень адкрыцьця помніка абраны невыпадкова: менавіта 9 сьнежня 1956 г. Ларыса Геніюш вярнулася на Радзіму, правёўшы сем год у лягерах.

Менчукам трапіць на адкрыцьцё можна, выехаўшы ў 9.15 электрычкай Менск-Асіпавічы. З Асіпавічаў праз Старыя Дарогі ідзе дызэль у кірунку Салігорску. Для жыхароў Баранавіч будзе зладжаны цэнтралізаваны ад'езд (а 8-й ад гатэлю "Гарызонт"). Папярэдне ахвотныя мусяць зьвязацца з Уладзімерам Гундарам праз т.: 241-79-51.

### Лекцыя пра пэрформанс

**У аўторак, 4 сьнежня, у Беларускім калегіюме можна паслухаць "Лекцыю пра бясьцелае"** беларускай пэрформансэркі Людмілы Русавай (аўтарскі варынт назвы – "Татальны лінгвістычны пэрформанс: муміфікацыя гуку № 4"). У Купалаўскай бібліятэцы. Пачатак у 18.30.




**7 сьнежня а 17-й у Купалаўскай бібліятэцы адбудзецца адкрыцьцё выставы маладых фатографаў "Фатапробы"** (з сэрыі выставаў "Беларуская фатаграфія: на мяжы стагодзьдзяў"). У экспазыцыі – фатаздымкі Андрэя Васкрасенскага, Настасьсі Гаруновіч, Кацярыны Герасянковай, Кацярыны Гуртавай, Паўла Касьцюковіча, Андрэя Калесьнікава, Алены Клюйко, Дар'і Юркевіч, Натальлі Яўмененкі, Аляксандра Яўмененкі. На адкрыцьці адбудзецца прэзэнтацыя *CD* "Сучасная беларуская фатаграфія". Выстава будзе працаваць да 18 студзеня з 11-й да 18-й акрамя аўторка, суботы і нядзелі.

**Вольга Гурло**

Фэльетон

# ЁН СКАЗАЎ: "ПАЕХАЛІ"

*Да 2006 г. беларуская касьмічная індустрыя выйдзе на паказчыкі 1981-га*

Папярэднія дамоўленасьці пра разьвіцьцё беларускага касьмічнага праекту былі дасягнутыя падчас візыту групы расейскіх касманаўтаў на Ўсебеларускі народны сход. Аднак Аляксандар Лукашэнка, з уласьцівай яму апошнім часам схільнасьцю прыкрываць кепска схаванае імкненьне да лібэралізацыі традыцыйнай інтэграцыйнай рыторыкай, паставіўся да праекту нечакана сур'ёзна. Як нам стала вядома, расейская ракета-носьбіт "СаюзРБ" выведзе на арбіту касьмічны карабель, які будзе амаль цалкам сабраны на прадпрыемствах Беларусі, ужо ў 2003 г. Плянуецца, што замовамі па касьмічным праекце будуць забясьпечаны ня толькі вытворчасьці так званае "абаронкі", але і Менскі завод халадзільнікаў, дырэктар якога працівіўся падобнай пэрспэктыве да апошняга. Пляцформу, зь якой стартуе ракета, распрацоўваюць на Менскім заводзе колавых цягачоў. Гонар шыць скафандар дастаўся "Мілавіцы". Касьмічнае харчаваньне будуць гатаваць на Лідзкім камбінаце харчканцэнтратаў, магутнасьці якога апошнім часам былі загружаныя толькі напалову з прычыны зьніжэньня попыту на суп харчо ў Афганістане ў выніку амэрыканскіх налётаў. Вытворчасьць ілюмінатараў маркуецца наладзіць на спэцыяльна пабудаванай для гэтага новай гуце ў Шклове. Гатоўнасьць адкрыць для гэтых мэтаў адмысловую крэдытную лінію ўжо выказалі нямецкія банкі.

Беларускім Байкануром стане адно з самых глыбокіх азёр Беларусі — або Балдук на Мядзельшчыне, або Доўгае на Глыбоччыне. Ракета стартуе з надводнае пляцформы, але аддача будзе такая моцная, што пляцформа пры гэтым нырне на глыбіню да 30 м. Пакуль навукоўцы беларускай Акадэміі навук аддаюць перавагу Доўгаму, якое адрозьніваецца нізкімі тэмпэратурамі вады, блізкімі да акіянскіх. Справа ў тым, што вільготны старт патрэбны для забесьпячэньня імгненнага ахаладжэньня стартавай пляцформы, якую з мэтаю эканоміі ў перапынках між запускамі маркуецца выкарыстоўваць у сельскай гаспадарцы.

Затое шанцы Балдука праславіцца калі не на ўвесь сьвет, дык прынамсі на ўсю рэспубліку павышаюць салідныя постаці ягоных лабістаў: у яго падтрымку выступае ня толькі прэм'ер-міністар краіны, але і трэці трэнэр алімпійскае хакейнае каманды ў зьвязцы з галоўнай доктаркай прэзыдэнцкай спэцпалiклінікі.

Тэхналёгія, на якой будзе грунтавацца праект пад умоўнаю назваю "Белыя крылы", магчыма, не зьяўляецца беларускім ноў-хаў. Нездарма, паводле нашых зьвестак, апошні сьпіс узнагароджаных пахвальным лістом прэзыдэнта ў сапраўднасьці на 8 прозьвішчаў даўжэйшы за той, які апублікавалі афіцыйныя газэты. Гэтыя 8 чалавек — кіраўнікі службы замежнай выведкі нашага КДБ. Кіраўнік аддзелу грамадзкіх сувязяў гэтае ўстановы Фёдар Котаў заявіў карэспандэнту нашай газэты, што ўпершыню пра такое чуе. Між тым у расейскай прэсе гэтыя зьвесткі мусуюцца ўжо два тыдні.

Але галоўная сэнсацыя — кандыдатура будучага касманаўта. Ім можа стаць сумна вядомы камбрыг Паўлічэнка. Ягоным жа дублёрам — цяперашні міністар унутраных справаў Навумаў. Паводле прэсавага сакратара МУС, "Навумаў сустрэў сьмехам чуткі пра ягоную адстаўку". Між тым адпаведны ўказ ужо ляжыць на стале ў Лукашэнкі і можа быць падпісаны ў наступным годзе. Адпраўка Паўлічэнкі ў космас, а Навумава ў рэзэрв была б вельмі "элегантным" спосабам замяць скандал вакол зьнікненьняў вядомых апазыцыянэраў. Нагадаем, Уладзімер Навумаў узначальваў міжведамасную групу ў справе расьсьледаваньня зьнікненьняў, якія зьвязвалі з імем Паўлічэнкі. Прозьвішча Навумава быццам бы ўжо прагучала ў судзе па справе Ігнатовіча. Нібыта Павал Шарамет, спасылаючыся на сьведкаў, заявіў, што міністар Навумаў патрабаваў ад аднаго з абвінавачаных узяць на сябе адказнасьць за выкраданьне Завадзкага. А былы супрацоўнік КДБ Вугляніца заявіў у інтэрвію радыё "Свабода", што тыя самыя зьвесткі мае былы начальнік СІЗА Алкаеў.

Кіраўніком беларускага касьмічнага агенцтва мае быць прызначаны У.Кавалёнак, добра вядомы прэзыдэнту яшчэ па сумеснай працы ў Вярхоўным Савеце. Аднак Кавалёнак пакуль рашуча адмаўляецца прыняць беларускае грамадзянства. Гэта ставіць пад пагрозу рэальнасьць выкананьня задачы, пастаўленай прэзыдэнтам перад сілавікамі на апошняй нарадзе: да 1 студзеня 2006 г. дасягнуць па колькасьці касманаўтаў узроўню 1981 г. Як вядома, тады ў Беларусі іх было два, але з распадам Савецкага Саюзу абодва засталіся ў Расеі і да апошняга не выказвалі жаданьня вярнуцца на гістарычную радзіму. Грошай жа ў беларускім бюджэце хапае толькі на чатыры пасяўныя, дзьве ўборачныя і запуск аднаго касманаўта.

Адсутнасьць У.Латыпава ў беларускай дэлегацыі, што наведала на мінулым тыдні Маскву (Адміністрацыю прадстаўляў ягоны намесьнік Л.Козік), сьведчыць, што шанцы "Сургутнафтагазу" на пастаўку ракетнага паліва пад будучы праект істотна вышэйшыя, чым у НВА "Энэргія". А тое, што сярод кандыдатураў на замену выведчыку Віку ў офісе нямецкага канцлера нейкі час разглядалі і Зыгмунда Ена, былога партнэра У.Кавалёнка па касьмічным экіпажы "Саюзу-31", вымушае выказаць меркаваньне, што ў праекце "Белыя крылы" яшчэ далёка ня ўсе казыры адкрытыя.

***Аддзел інфармацыі Советской белорусской деловой газеты***

Жарт





**6 сьнежня. 19:00.** Тэатар юнага гледача (Энгельса, 26). Прэм'ера сольнага праекту Зьміцера "Тодара" Вайцюшкевіча (Kriwi) "Цацачная крама" на вершы паэта Леаніда Дранька-Майсюка. У праграме таксама выкананьне песень з супольных музычных праектаў "Народны альбом", "Сьвяты Вечар", "Я нарадзіўся тут".

**12 сьнежня.** ДК МТЗ. Юбілейны канцэрт легенды беларускага року "КРАМА - 10 год" з прэзэнтацыяй новага альбому "Хавайся ў бульбу!". Пачатак 19:00.

**13 сьнежня.** ДК МТЗ. Прэзэнтацыя альбому "Прилітай!" гурта "Нічний портье" з удзелам гуртоў "Тяни Толкай", праектаў "Made in Belarus" і "Made in Ukraine". Пачатак 19:00.

**25 сьнежня.** ДК МТЗ. "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ НА КАЛЯДЫ" з удзелам "Палац", "POSTSCRIPTUM", "Акруга Вольнага Мастацтва" і інш. Пачатак 19:00.

Сувязь з арганізатарамі: 8-0296-490888, 2118585 (аб. БМА).

Набыць квіткі можна ў Віталя Станішэўскага з панядзелка па пятніцу з 18:00 да 19:00 на сядзібе ТБМ па адрасе: **Менск, Румянцава, 13; Варвашэні, 8. Тэл. 213-43-52.**



## Прыватныя абвесткі

### *вітаньні*

Vinšuju z 95-hodździem. Zastavajciesia pieršaj bielaruskaj hazetaj

**Прыміце віншаваньні** з 95-годзьдзем! Хай "Наша Ніва" й надалей расьце ды прыгажэе! Уладзіслаў Жыгалка

**Віншуем Алега Сагадзіна** з Днём народзінаў! Жадаем здароўя, посьпехаў, добрых людзей побач. Сябры з Жыткавіч

**Top(-less) мадэльку Алену Васілевіч** віншуем з Днём народзінаў. Жадаем, чакаем, спадзяемся, верым, любім. Кавалеры

**Самую прыгожую,** стылёвую і эратычную дзяўчыну ў сьвеце Алену Васілевіч віншую з Днём народзінаў. Уладзімер

**Малы** віншуе Алену Васілевіч з Днём народзінаў. Хай на сусьветным подыюме зазьзяе беларуская зорка!

**Дзень народзінаў** Алены Васілевіч – будучае дзяржаўнае сьвята: дзень каханьня, шчасьця і ліцэйскага кампанэнту

**Аленка Васілевіч!** Да наступнага Дня народзінаў выдай замуж сястрычку і сябе. Закаханы ў абедзьвюх

**Ягоравага дзядзьку Алеся** з Днём народзінаў! Каханьня, здароўя, шчасьця, дабрабыту і міру ў сям'і. Родныя

### *ідэі*

**Сям'я – маленькая краіна.** Непаразуменьні ў сям'і – бязладзьдзе ў краіне. М.

**Адным дубцом** не падмяцеш двор, з адной цагліны не збудуеш дом. М.

**Беларусы, балтарусы!** Вы пазбавіліся мовы сваёй, быдлам быць заўжды гатовы. Ігар

**Г.М.** Жанчына, якая, будучы жонкай, беспадстаўна адвяргае свайго мужа, ня ёсьць жанчынай. Б.М.

### *кнігі, музыка*

**Куплю "Сьцяну"** і "Пахаджанаў" Васіля Быкава. Хто мае – тэлефануйце, не лянуйцеся. Т.: (02350) 21-6-84

**Прадам энцыклапэдыю** ў 22-х тамох *World Book* з пошукавым дыскам; на ангельскай. 246001, Гомель, вул.Майсеенкі, 45, кв.16

**У Гомелі** можна набыць кнігу М.Ермаловіча "Беларуская дзяржава ВКЛ" (2000 г. выданьня). Т.: 45-11-51

**У Гомелі ёсьць** альбом С.Сокалава-Воюша "Нефармальны беларус" (CD і аўдыё). Т.: 45-11-51

**CD "Я нарадзіўся тут"**, "Легенды...", "Народны альбом" і іншае ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**У Гомелі хутка зьявіцца** новы альбом гурту "Крама" – "Хавайся ў бульбу". Т.: 45-11-51

**Камплект часопісаў** "Роднае слова" (№№12/96, 1—12/97, 1—11/00, 3—4/01) прадаю за 15 у.а. Т.: 262-72-68

**Запісы гурту "Стары Ольса"** – "Келіх кола", "Віp", іншыя запісы, відэа, паштоўкі, значкі. Т.: 220-68-74 (удзень)

### *набажэнствы*

**Эвангельскія хрысьціяне-баптысты** запрашаюць на набажэнствы штонядзелю а 15-й на Чайкоўскага, 37. Браты й сёстры

### *пошук*

**Шукаю інфармацыю** пра старыя паштоўкі Гомелю 1900—1950 г. Т.: (0232) 48-38-91, *e-mail: talaka@tut.by*

### *праца*

**Прапануем працу гандляркі** ва ўнівэрсаме. Век да 35 гадоў, валоданьне беларускай мовай, пражываньне ў Кастрычніцкім раёне Менску. Т.: 228-45-88 (Алесь), 275-25-00 (Уладзімер)

**Урокі малюнку, жывапісу** ў творчай майстэрні мастака. Т.: 224-85-38

**Бізнэс-кансультант** дапаможа вам павялічыць аб'ём продажу. Т.: 284-07-09. Максім

**Дапамагу пачаць** уласную справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана. Могуць усе. Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Бацька – будзе!

*Фэльетон*

Чалавек я не партыкулярны, не чачэнец, не шпіён, злачынных зносінаў ня маю ні з Пэнтагонам, ні з бэн Ладэнам, ні з Абламейкам з гораду Прагі, хіба што толькі зрэдчас з "Нашай Нівай", што на Залатой Горцы ў горадзе Менску, а як што, мы — людзі тутэйшыя, дык рацыя нам да мяккага месца, мы просьценькім эмэйлам абыходзімся. Ведаеце, пакуль што ўсё, што пасылаў, дзякуй богу, да вас даходзіла, а я і ад розуму не адышоў, каб сьпісвацца шыфроўкамі,— яшчэ калі маці мною хадзіла, я ўжо ведаў, як гэта небясьпечна. Толькі паткніся — абсяруць з галавы да ног, а ты чыстым дурнем стой, абцякай!.. Адзінае, што я сабе дазваляю дзеля маскіроўкі, каб не пазналі, гэта карыстацца мяккім знакам, хай, каму трэба, думаюць, што я — вячоркавец. Ага ж бо, пра што гэта я?.. Якая будзе Беларусь праз сто гадоў? Каб вы так дыхалі — а от жа будзе! Будзе цэнтрам Эўропы, калі толькі да Эўропы не далучаць якую-небудзь Азорскую выспачку ці Галяндыю не адсуне шэльфу — тады, натуральна, цэнтар зьмесьціцца ўбок, і мы, беларусы, зробімся правінцыяламі, ці, як цяпер модна казаць, — маргіналамі.

Ва ўнутранай палітыцы мы дарэшты высушым палескія балоты, дажджоў ня будзе, такім чынам, аж да самай расейскай мардвы. Маскалі пабягуць да нас хлеба прасіць, наплачуцца, а мы сабе рагатаць і выскаляцца будзем ды пальцам у іх тыкаць: прагайдамачылі, скажам, бацькава дабро, высмакталі ўсё як расянка муху, а цяпер да нас просіцеся: карміце нас, дармаедаў, мы вам пасьля паспасібуем. А на хваробу нам яна, ласка такая!.. Нам інтэграцыю сёньня падавай, а не праз сто гадоў. Кран мы ім завернем, бо мы не якое там месца такое, каб праз нас газы выпускалі... Ага ж бо, куды гэта мяне занесла... Скажаце: танцаваў і выгэльцваў, а й не пакланіўся. Дык жа дзякуй вам у шляпу, у высокі капялюш! Бацька — будзе! Што мяне найболей радуе! Абы каб здаровенькі быў... Вось вам нізкі паклон у пояс да самага пупа.

**Ваш Граждан, славянін-патрыёт**






**незалежная газэта**
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| вярстальніца | Заміра Болцікава |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**




6 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты "Известия", д. 8, кв. 173.
Наклад 3684.
Нумар падпісаны ў друк 2.12.2001.
Замова № 7060.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а